ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА




ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

20 чэрвеня 1997 г. № 25/3901 Кошт 3 000 руб.

Тут няспешна жыццё працякае
І расце на дарогах трава.
Сваё белае цела хавае
Сярод дрэваў высокіх царква.

Тут зялёна, тут вечна, тут гойна
І жыве тут мая Беларусь.
Ды чамусь на душы неспакойна,
Неспакойна на сэрцы чамусь...

Фота А. КЛЕШЧУКА

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Прэзідэнт Беларусі і ў адпачынку не адпачывае. І іншым не дае адпачыць, працуе на дабрабыт Беларусі і Саюза. Так, цяпер на плячах А. Лукашэнкі — двайная (калі не дзесяцікратная) ношка. І думаць трэба не толькі пра тое, як запусціць заводы на Беларусі, але і як не спыніць іх пры гэтым у Расіі — забраўшы паліва, сыравіну... А ў расійскім урадзе галовы павысоўваліся, якія думаюць толькі пра сябе і свайго не ўпускаюць. Таму і сустракаўся прэзідэнт Беларусі і лідэр Саюза з прэм'ер-міністрам Расіі не як са сваім падначаленым, а як з... роўным. Хоць, калі мець на ўвазе танальнасць каментарыяў расійскіх СМІ, то усё-ткі не як з роўным... З утварэннем Саюза нічога не змянілася ў адносінах Расіі да Беларусі. І не зменіцца, пэўна ж, у лепшы бок, калі нават Беларусь стане часткай Расіі. Марныя спадзяванні, што нас добры брат сагрэе, накорміць, працу дасць... Час зразумець, што не такія ўжо маленькія мы, што трэба пачынаць нам жыць самастойна, як іншыя браты ды сёстры. Увесь вопыт шматгадовага "яднання" гаворыць пра гэта, крычыць нават, а мы нібыта не чуем, не заўважаем... Але яднальнікам трэба было б помніць тое, што сцвярджаюць фізікі: чым большая сіла прыцягнення — тым большая сіла адштурхоўвання... А законы прыроды (як і законы эканамічныя) дзейнічаюць заўсёды няўмольна і няўхільна. Не зважаючы ні на якія ідэалагічныя закліканні...***

### ПЕРАМОВЫ ТЫДНЯ

Праблема, якім чынам зрабіць сённяшнюю сістэму ўлады на Беларусі легітымнай і, адпаведна, прызнанай у свеце — была і застаецца нявырашанай. Як бы мы сябе ні супакойвалі словамі пра ўсенародны рэферэндум, ЕС мае сваю думку наконт яго правамоцнасці і, зноў жа адпаведна, наконт правамоцнасці створаных пасля яго органаў улады. Як дабіцца таго, каб і козы былі цэлыя і ваўкі сытыя? Дзеля гэтага і збіраліся на мінулым тыдні на перамовы па тры прадстаўнікі ад ЕС і СЕ, ад адміністрацыі прэзідэнта Беларусі і ад Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Да іх далучылася яшчэ адна "тройка" — лідэры асноўных фракцый былога парламента. Чым могуць закончыцца гэтыя перамовы — цяжка сказаць. Бо, па сутнасці, прымаць рашэнне будзе толькі адзін бок: той, які мае сёння рэальную ўладу на Беларусі. І рашэнне павінна ўзважвацца такое: дзяліцца ўладай з апазіцыяй альбо не... Таму перамовам пакуль дадзены адпачынак.

### СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ

Першая сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі закончылася прыняццем рашэння аб прызнанні былога гімна СССР гімнам Саюза дзвюх дзяржаў. Пастанову аб гэтым адразу ж падпісаў Г. Селязнёў, і загучала музыка... Але гучала яна нядоўга. Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын заявіў, што гэтае рашэнне Парламенцкага сходу нельга лічыць легітымным, паколькі "пытанні падобнага роду не могуць вырашацца без Прэзідэнта РФ, а таксама без грунтоўнага абмеркавання на Вышэйшым савеце Саюза". Дэпутаты ж, задаволеныя сабой, на ўрачыстасці ў сувязі з аднаўленнем гімна сабраліся ў Віскулях у тым жа пакоі, дзе ў снежні 1991 года былі падпісаны Белавежскія пагадненні... Логікі ў гэтым рашэнні няшмат, бачыцца ў ім найперш пачуццёвае: "настальгія" па ўсім былым — ладзе і ўладзе з песнямі...

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Брэсцкія пасядзелкі прадстаўнікоў Лукашэнкі з пасланцамі апазіцыйнай большасці расійскай Думы зрабілі сімвалічны крок, які паказвае, што яны не проста за Саюз, але за Саюз сталінскага кшталту. Зусім натуральна гараваць аб распадзе дзяржавы, якая была нашай радзімай. Законнае права кожнага — імкнуцца да новага Саюза. Аднак якім жа трэба быць цвёрдалобым, каб цягнуць нас менавіта ў такі саюз, які не вытрымаў выпрабавання часам! Можна спрачацца, добра гэта ці дрэнна, што СССР распаўся, чаму распаўся і хто вінаваты, але нельга спрачацца аб факце: ён распаўся. А ігнараваць факт, выходзіць, можна. І гэтыя людзі называюць сябе палітыкамі..."

*(З артыкула Ота Лацыса "Музыка ўчарашніх", "Известия", 17 чэрвеня г.г.).*

### ПРЫСУД ТЫДНЯ

На мінулым тыдні плённа папрацавала беларуская судовая сістэма. Нарэшце, закончана справа паэта Славаміра Адамовіча. Ён прызнаны вінаватым у напісанні і распаўсюджванні верша "Убей президента" (гэта кваліфікавана было як знявага дзяржаўнай службовай асобы, а не як заклік да тэрарыстычнага акта). С. Адамовіч прызнаны вінаватым і ў спробе незаконнага пераходу беларуска-літоўскай мяжы. За гэтыя "злачынствы" С. Адамовічу было адмерана пакаранне роўна на 10 месяцаў, якія ён ужо адседзеў у следчым ізалятары. Такім чынам, працэс, які меўся быць палітычным,ператвораны ў чыста крымінальны і "спушчаны на тармазах". Маўр зрабіў сваю справу?..

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Урад прыняў пастанову, якая тым ці іншым чынам закране літаральна кожную беларускую сям'ю: з 1 верасня 1997 года будзе брацца плата за карыстанне школьнымі падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі. Ініцыявана гэтая пастанова Міністэрствам адукацыі з-за хранічнага недахопу бюджэтных сродкаў на выпуск падручнікаў. Бацькі, праўда, выплачваць будуць не ўвесь кошт, а толькі 25 працэнтаў ад яго, прадугледжаны і "льготы для пэўных катэгорый грамадзян". І тым не менш — рашэнне гэтае сімптаматычнае і сімвалічнае: рынак наступае на неакамунізм, альбо як той казаў: жыць у свеце і быць вольным ад яго — нельга... У Расіі даўно ўжо за падручнікі плацяць.

### БІЗНЕС ТЫДНЯ

Лета яшчэ не было, цяпла яшчэ не было, а грыбы ў беларускіх лясах, кажуць, ужо ёсць. Надыходзіць сезон "ціхага палявання", якое стала для многіх беларусаў не толькі задавальненнем, але і магчымасцю добра зарабіць. Замежныя фірмачы ўжо некалькі гадоў запар тонамі скупляюць на Беларусі лісічкі. Не стане выключэннем і год сёлетні. Бізнес гэты наколькі даступны ўсім, настолькі і выгадны... Нездарма дзяды нашыя мудра казалі: беражыце лясы, яны вам яшчэ спатрэбяцца. Хоць гэтак, хоць так, ды спатрэбяцца...

### РАДАСЦЬ ТЫДНЯ

У Гародні нарадзіўся трохсоттысячны жыхар. Гарады нашыя робяцца ўсё больш пайнаводнымі. Вёскі — мялеюць... Урбанізацыя — тая ж меліярацыя. Нішто ў прыродзе не ўзнікае з нічога і нікуды не знікае, а толькі пераходзіць з аднаго стану ў другі. Фізіка. Зноў ад яе нікуды не падзецца...

# Дзейнічаў і на карысць музыкі...

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

Мы, дзеячы музычнай культуры Беларусі, выказваем глыбокую занепакоенасць у сувязі з прыпыненнем працы Беларускага фонду Сораса. Ва ўмовах складанага эканамічнага становішча ў рэспубліцы, калі Міністэрства культуры абмежавана ў магчымасці фінансавання многіх мерапрыемстваў і праектаў у галіне музычнага мастацтва, падтрымка Беларускага фонду Сораса была істотным фактарам паўнавартаснага функцыянавання і развіцця нашай культуры. Дзякуючы дабрачыннай дапамозе фонду многія таленавітыя музыканты і найперш навучэнцы, студэнты і выкладчыкі профільных навучальных устаноў мелі магчымасць прыняць удзел у прэстыжных міжнародных конкурсах за мяжой, заваяваць там самыя высокія ўзнагароды і тым самым падняць на якасна новы ўзровень прэстыж айчыннай музычнай культуры. Дзесяткі музычных калектываў атрымалі магчымасць годна прадставіць Беларусь на аўтарытэтных міжнародных фестывалях і форумах, ажыццявіць стажыроўку, а таксама прыняць удзел у міжнародных канферэнцыях і сімпозіумах па праблемах мастацтва і культуры. Фонд Сораса аказваў таксама ўсемагчымае садзеянне ў фінансаванні большасці значных міжнародных фестываляў і конкурсаў, сімпозіумаў і канферэнцый, наладжаных у Рэспубліцы Беларусь (ад Міжнароднага конкурсу піяністаў да рэгіянальных фальклорных конкурсаў і фестываляў). Дзякуючы дапамозе фонду нашу краіну наведалі вядомыя дзеячы мастацтва Расіі, заходніх краін; у Беларусь былі вернуты ў выглядзе копій (у тым ліку і рукапісных) многія помнікі музычнай культуры, якія воляю лёсу аказаліся за яе межамі.

У рамках гэтага звароту мы не можам ахапіць усе аспекты і факты дзейнасці Беларускага фонду Сораса на карысць беларускай музычнай культуры. Толькі пералік заняў бы дзесяткі старонак. Аднак цалкам відавочна, што прыпыненне дзейнасці фонду адмоўна адбіваецца на развіцці нашай культуры. Ужо сёння многія таленавітыя беларускія музыканты, якія паспяхова прайшлі адборачныя праслухоўванні на міжнародныя конкурсы і прэтэндуюць на прызавыя месцы, могуць не атрымаць магчымасці ўдзельнічаць у гэтых надзвычай важных для агульнадзяржаўнага прэстыжу форумах. Праблематычным будзе і ажыццяўленне многіх іншых праектаў у галіне музычнай культуры, якія вымагаюць значных матэрыяльных затрат.

Просім Вас, Аляксандр Рыгоравіч, аказаць садзеянне ў аднаўленні дзейнасці Беларускага фонду Сораса на карысць развіцця айчыннай музычнай культуры і мастацтва.

**З павагаю:**
**В. СКОРАБАГАТАЎ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны артыст Беларусі; І. АЛОЎНІКАЎ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны артыст Беларусі, прафесар; А. ЯНПОЛЬСКІ, загадчык кафедры скрыпкі Беларускай акадэміі музыкі, прафесар; В. ЯКАНЮК, першы прарэктар Беларускай акадэміі музыкі, прафесар; У. НЕХАЕНКА, дэкан фартэпіяннага і кампазітарска-музыказнаўчага факультэта Беларускай акадэміі музыкі, дацэнт; У. КУЗЬМЕНКА, дырэктар Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, дацэнт; І. НАЗІНА, прафесар кафедры беларускай музыкі, загадчык кафедры; С. ОКАЛАВА, загадчык кафедры канцэртмайстарскага майстэрства, дацэнт; Я. ГЛАДКОЎ, загадчык кафедры струнных народных інструментаў, прафесар, заслужаны артыст Беларусі; З. КАЧАРСКАЯ, прафесар кафедры спецыяльнага фартэпіяна Беларускай акадэміі музыкі**

КАНЦЭРТЫ

# На новай сцэне

У Мінску, у адкрытым нядаўна Маладзёжным тэатры эстрады, адбыўся канцэрт стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Юныя таленты нашай рэспублікі прадэманстравалі свае дасягненні ў выбраным відзе мастацтва, парадавалі гледачоў і строгае журы высокім выканальніцкім майстэрствам і пацвердзілі тым самым сваё права называцца стыпендыятамі фонду.



*На здымку: спявае мінчанін Максім Качаткоў.*

*Фота М. ПЯТРОВА, БЕЛТА*

РЭПЛІКА

# Горад без інтэлігенцыі?

Думка пра тое, што ў Барысаве няма творчай інтэлігенцыі, а значыць не трэба завозіць у продаж і яе голас — газету "Літаратура і мастацтва", пэўна, даўно выспявала ў работнікаў Барысаўскага аддзялення "Саюздруку". Урэшце, нядаўна яна ператварылася ў дзеянне. Ужо каля месяца горад з насельніцтвам звыш 200 тысяч чалавек не атрымлівае газеты "ЛіМ".

У пятніцу, 13 чэрвеня, аўтар гэтых радкоў сеў на веласіпед і аб'ехаў газетныя кіёскі слаўнага горада. Адказы кіяскёрак на просьбу прадаць газету былі наступныя:

— А что это такое — "ЛіМ"?

— Даўно не прывозілі.

— Першы раз чую пра такую газету.

— Я, знаете ли, русская, жена военного, такую газету и сама не читаю и другим порекомендовать не могу.

Жонак ваенных аказалася сярод кіяскёрак ці не палова. Тым не менш, нягледзячы на ўяўную русіфікацыю, спакойна адпачываць у сваіх кіёсках ім часам не даюць: попыт на "ЛіМ", "Нашу ніву", часопіс "Крыніца" і іншыя выданні ёсць.

Дык не ўтварайце праблем, таварышы з "Саюздруку". Іх у вашым горадзе і так хапае.

**Ю. С.**

НАПАМІН

# А гімн усё ж патрэбны...

Незалежная, суверэнная дзяржава Беларусь вось ужо амаль шэсць гадоў жыве без такога важнага атрыбута дзяржаўнасці, як гімн. Фармальна ім нібыта лічыцца стары, бээсэсэраўскі, але без слоў. У нядаўнія часы аб'яўляўся конкурс на музыку і словы новага дзяржаўнага гімна, прапаноўваліся ў якасці дзяржаўных не забытыя яшчэ "гістарычныя" гімны — "Магутны Божа", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і інш., браліся за аснову творы класікаў і пісаліся новыя... Аднак, дэмакраты з-за непатрэбных спрэчак пачатую справу да канца не давялі, а з прыходам да ўлады першага прэзідэнта Беларусі ўсе конкурсы ды прапановы забыліся... І засталіся мы без гімна. На афіцыйных урачыстасцях ды імпрэзах гучыць, па-ранейшаму, бээсэсэраўскі. Але прыкра было назіраць, як перад пачаткам футбольнага матча Беларусь—Шатландыя балельшчыкі *са смехам* падпявалі ўслед музыцы: "Мы беларусы, з братнюю Руссю..."

Цяпер вось утвораны Саюз Беларусі і Расіі. У якасці гімна новаўтварэння прыняты стары — эсэсэраўскі. І зноў жа — без слоў. Ну няхай, будзе той Саюз трывалым ці не — час пакажа. Але ж дзяржаву Беларусь усё-ткі дабудаваць трэба было б... Яе ж ніхто не ліквідаваў. А што за дзяржава без гімна? Дык ці не варта было б давесці пачатую некалі справу да канца? Варта, але... Ці не атрымаецца ў нас зноў тое, што сталася з "новымі" гербам ды сцягам? Нельга, каб за справу зноў узяліся непрафесіяналы. Нельга, аднак хто ж сёння гэта можа гарантаваць?..

**Ігар САЧАНКА**

АНОНС

# Паклон Купалу

Янка Купала — гэта тая крыніца, што бруіць незамутнёна з вечнасці, здольная наталяць нашыя пераслмаглыя душы недачэпным святлом веры. Мы ідзём да Купалы, да Янкі Купалы, які і ў непагадзь пахмурную, і ў вогненную спёку пераменлівых часоў патаемнаю кветкаю-папараццю асвятляе нам пуцявіну.

У суботу, **28 чэрвеня**, вечнасць нагадае: 55 гадоў, як не стала на гэтай зямлі Купалы. Але паэт не сышоў. Паэт — у памяці нашых сэрцаў, у нашых думках і сягненнях.

У жальны дзень Купалавай смерці клічам Вас на імшу памяці Янку Купалу а **10-й гадзіне** ў Чырвоны касцёл святых Алены і Сымона ды ўсклаці кветкі пашаны да магілы Песняра ў **12 гадзіне** на Вайсковых могілках.

СВЯТЫ

# Мастацтва для ўсіх

З 7 па 14 чэрвеня ў Мінску праходзіў Тыдзень брытанскай культуры. У праграме тыдня былі і футбольныя матчы, і матч па крыкету, паэтычныя чытанні і тэатральныя дзействы, і нават святкаванне Дня нараджэння каралевы — 13 чэрвеня, нацыянальнае свята брытанцаў.

12 чэрвеня ў памяшканні Брытанскага савета, які і ладзіў мерапрыемствы тыдня, адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная адкрыццю ў Нацыянальным музеі Беларусі выставы англійскага мастака Пітэра Блэйка. У сусветным мастацтве ён, напэўна, найбольш вядомы, як аўтар вокладкі знакамітага альбома "Бітлз" "Аркестр клуба Самотных Сэрцаў сяржанта Пэпера". Пітэр Блэйк — прадстаўнік руху поп-арт (папулярнага мастацтва). Ідэя руху — ствараць мастацтва, зразумелае кожнаму чалавеку, выкарыстоўваючы здабыткі і праявы масавай культуры, абавязкова з элементамі гульні, жарту.

Нарадзіўся мастак у 1932 годзе непадалёк ад Лондана, скончыў Каралеўскі каледж мастацтваў у Лондане, у якім, пасля, дарэчы, шмат гадоў выкладаў. Творчасць Пітэра Блэйка карыстаецца папулярнасцю на яго радзіме. Адбываліся выставы твораў мастака ў самых прэстыжных залах, у тым ліку галерэі "Тэйт". Выстава, якую пабачаць мінчукі, — цыкл з дваццаці шасці карцін, кожная з якіх адпавядае пэўнай літары англійскага алфавіта. Для кожнай літары мастак знайшоў адпаведнік — знак масавай культуры са свету шоу-бізнесу. Выкананы працы ў жанры шаўкаграфіі.

Выстава твораў Пітэра Блэйка — ужо пятая выстава, арганізаваная на Беларусі Брытанскім саветам. Папярэднія выставы дэманстравалі літаграфіі Генры Мура, творы поп-арт-мастака Дэйвіда Хокні, ілюстрацыі да казак Братоў Грым. Адбыліся таксама выставы "40 гадоў брытанскай скульптуры (1939—79)" і фатаграфіі сярэдзіны мінулага стагоддзя. Сёлетняя выстава прадоўжыцца да 12 ліпеня. Пасля Мінска карціны Пітэра Блэйка паедуць у Тбілісі, Ерэван, па гарадах Расіі.

Мастацкі фонд Брытанскага савета невялікі — Савет абмежаваны ў сродках для набыцця карцін і стараецца купляць творы хаця і высокамастацкія, але не самыя дарагія. Таму мае ў асноўным творы маладых мастакоў. Папаўняецца фонд Савета і за кошт падарункаў — так, вядомы мастак і скульптар Генры Мур падарыў Савету ўсе свае літаграфіі колькасцю больш за 700.

**Л. Ш.**

# Ліда рыхтуецца

У народным мастацтве прынёманскага краю — свае традыцыі. Любяць тут збірацца вясёлым гуртам: памузыкаваць, паспяваць, патанцаваць. Невыпадкова менавіта тут, на Гарадзеншчыне, і ладзіцца Першы рэспубліканскі фестываль ансамбляў песні і танца. Арганізатары — Міністэрства культуры Беларусі, Упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, Лідскі гарвыканкам — праводзяць яго з 27 па 29 чэрвеня ў Лідзе. Сваё мастацтва прадставяць паўтара дзесятка народных калектываў, у тым ліку й дзіцячых: ад кожнай вобласці Беларусі чакаецца па адным удзельніку, а Гарадзеншчына ды гаспадыня-Ліда пакажуць усё лепшае, што маюць у гэтым жанры.

Што ў праграме? Выступленні ансамбляў песні і танца на канцэртных пляцоўках раёна і ў горадзе, сустрэча гледачоў са знакамітым прафесійным калектывам — Акадэмічным народным хорам імя Г. Цітовіча. І, вядома ж, — конкурс, які пройдзе ў новым гарадскім Палацы культуры 28 чэрвеня. Конкурснае журы ўзначальвае народны артыст Беларусі прафесар Міхась Дрынеўскі.

ВІНШУЕМ!

# Не баяцца рабіць тое, што варта...



"У нас ёсць улада толькі над сучасным", — мовіў акцёр Аўгуст МІЛАВАНАЎ у ролі імператара Ромула Вялікага. Мовіў і вытрымаў паўзу, каб набраць паветра... Героі Дзюрэнмата пра сучаснае не думалі — хіба пра мінуўшчыну ды будучыню. І таму, паводле драматурга, рэжысёра і ўсіх акалічнасцяў, пацярпелі. Акцёрская ўлада доўжыцца вечар, абмяжоўваецца спектаклем, а распаўсюджваецца часам і на мінулае, і на будучыню. Асоба акцёра нітуе іх сабою, прапускае праз сябе або вызначае. Так, што часам робіцца вусцішна ад глыбіняў акцёрскага сягання...

"А ты навучыся перамагаць страх. Гэта адзінае мастацтва, якім у наш час трэба валодаць. Не баяцца бачыць рэчы, якія яны ёсць, не баяцца рабіць тое, што варта", — мовіў акцёр Аўгуст Мілаванаў у ролі імператара. Зрэшты, ён мог бы паўтарыць гэта і ад сябе асабіста — ад асобы, на чыё мастацтва справядліва прэтэндуе і мінулае, і сучаснае, і будучыня. "Псіхалагічнай дакладнасцю характараў, ацэначнасцю паводзін персанажа, выразным вонкавым малюнкам ролі, тонкім адчуваннем стылю і жанравай прыроды твора" характарызуецца ягонае мастацтва. І за ўсе ягоныя шэсцьдзесят гадоў жыцця (з іх больш за сорак — на сцэне) сутнасць гэтага мастацтва не змяняецца: ён разам з ім перамагае нават агульнаглядацкі страх ды страхі...

16 чэрвеня Купалаўскі тэатр адзначыў дзень нараджэння Аўгуста Мілаванава ўрачыстаю вечарынаю. З віншаваннем ад урада і Прэзідэнта. Згадвалі гады і ролі. Тату з "Зацюканага апостала" А. Макаёнка, Осіпа з "Рэвізора" М. Гогаля, Зурыко са спектакля "Я, бабуля, Іліко і Іларыён" Н. Думбадзе і Р. Лоркіпанідзе, Тэўе з "Памінальнай малітвы", Герастрата з аднайменнага спектакля паводле Р. Горына, Гэлі Гэя з "Што той салдат, што гэты" Б. Брэхта... У акцёрскае вымярэнне народнага артыста Беларусі Аўгуста Мілаванава спраўна ўкладаюцца эпохі і светы. У яго ёсць улада над імі. І, што адметна, над намі таксама.

ЭКСЛІБРЫС

# Адзінокая зорка

*Лера Сом. Мінск, "Мастацкая літаратура", 1996.*

**Ніколі не чуў, як спявае Лера Сом. І гэта спрошчвае маю задачу. Я гляджу на яе тэксты да песняў і вершы, і ў мяне не ўзнікае ніякіх асацыяцый. Вельмі часта словы аўтарскай песні, спалучаныя з музыкаю, набываюць нейкую самастойную магічную сілу, шматзначнасць і выразнасць, што, увогуле, цяжка паддаецца апісанню. Часта радкі, праспяваныя пад гітару, уздзейнічаюць на людзей значна мацней, чым проста вершы, таму ў аўтарскай песні заўсёды прыхавана спакуса ўлады над слухачом.**

**Я, схаваны ад гэтых чараў за сваім няведаннем, спакойна гартаю кніжку Л. Сом, якая, як спрактыкаваная вястунка, абяцае "не крыўдзіць, не шкодзіць нікому Учэпістым словам", а значыць і мне.**

**Лірычная гераіня Л. Сом пакідае ўражанне чулай і кволай істоты, якая, часам, і можа ўсклікнуць у адчаі: "Наша светлае слова чужацкую хеўру заб'е", але яна сама не верыць у гэта. І яе рытарычнае пытанне: "Ці навучуся жыць пад сонцам адзіноты? І быць "супроць", калі ўсё наваколле "за"?" вырашаецца ў яе, так бы мовіць, па-жаноцку традыцыйна. Яна баіцца і не жадае глядзець праўдзе ў вочы, і паддаецца жыццёвай плыні, хаця і фіксуе непрыдатную для свайго кволага "я" інфармацыю: "Іду калідорам — бліскучым, бясконцым, кручастым... Бягучыя стрэлкі на сценах, каля паваротаў Паказваюць тупа: "Туды, кіравацца туды!" Мой родны! Вазьмі завяжы ты мне вочы, Каб я не зважала на тых вестуноў накірунку..."**

**Хада па жыцці "з завязанымі вачыма", стварае ў лірычнай гераіні Л. Сом шмат ілюзіяў. Сярод іх — ілюзія самастойнасці: "Я ведаю — у гэтым свеце Рэальная толькі я", з якой вынікае яшчэ адна ілюзія — адзіноты, аднаго з асноўных матываў у вершах паэткі. Яна хоча навучыцца "у зоркі я адзіноце", яна "ідзе адна заўсёды", у яе "мая сяброўка — адзінота". Ілюзія адзіноты выклікае ў яе жаданне знайсці яшчэ некага, таму яна "адчувае, што, магчыма, У свеце ёсць яшчэ адзіны — Няхай адзіны! — чалавеча, з якім магчыма разуменне". А гэта, у сваю чаргу, выклікае эратычныя трызненні: "Вядзём прыстойна доўгія размовы, І кожны ходзіць па сваім баку... Ды толькі я прысніла сон учора — Што пра мяжу забыў ты і прыйшоў, І я забыла і цябе сустрэла Абдымкамі, і нашых пацалункаў Было без ліку".**

**Натуральна, што пачуццё адзіноты, цемры, выклікае ў яе і прагу смерці. Праўда, яна не ўпэўненая ў гэтым: "Я часта хачу памерці, а зрэдку хачу спяваць". Але яна з асалодаю, характэрнаю для слабых істотаў, вяртаецца да гэтых думак зноў і зноў: "Кроў змяшаецца ў ванне З попелам цыгарэты" — так уяўляе яна прыгожую смерць.**

**А хто ж вінаваты ў праблемах слабой кабеты? Толькі не яна, інакш яна не была б жанчынаю: "Там, на небе, Я за ўсё спытаю з Цябе, Божа", і яна падрабязна пералічвае, за што збіраецца ў Яго спытаць.**

**Кволая лірычная гераіня Л. Сом ідзе па гэтым жыцці, не спадзеючыся калі-небудзь і куды-кольвек дайсці: "І дарога з Вільні на Полацак — Вось адзінае, што не скрадзена... Нам не трапіць ніколі ў Полацак, Нам ніколі не ўбачыць Вільню". І чаму толькі нас, чытачоў, так прывablівае гэты шлях?**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ПОШТА

# Саюзны вузел

Хачу сказаць здалёку пра самае блізкае.

Гарачыя прыхільнікі аб'яднання Беларусі і Расіі доўга і настойліва распавядалі нам пра выгоды, якія атрымаюць нашы народы, нашы рэспублікі. Асаблівы акцэнт надаваўся наступнаму: "аб'яднанне дасць магчымасць зняць перашкоды ў развіцці эканомікі, "запусціць" заводы і фабрыкі, што, у сваю чаргу, прывядзе да росту жыццёвага ўзроўню людзей.

У свой час вядомы рускі паэт канца XIX стагоддзя Аляксей Талстой пісаў: "Гладко было на бумаге, а забыли про овраги, а по ним ходить". Сапраўды, на паперах заўсёды вельмі добра, ды і ў прамовах адчуваецца "жалезная логіка" на карыснасць аб'яднання. Але ўсе вывады аб тым, што калісь, у "старыя, добрыя часы", існавала вытворчая кааперацыя і ўсё было някепска, "несостоятельны". Так, тэрытарыяльныя сегменты савецкай эканомікі ў межах СССР сапраўды ўвязваліся "посредством" размеркавання рэсурсаў Дзяржпланам і Дзяржаўным камітэтам забеспячэння — "Госснабом". З таго часу шмат што змянілася — няма ўжо гэтых уплывовых органаў. Прадпрыемствы самі бяруць арыенцір на рынкавы попыт і ўстанаўліваюць гаспадарчыя сувязі ў адпаведнасці з эканамічнымі інтарэсамі, а не інтарэсамі той ці іншай групы чыноўнікаў, ці геапалітыкаў. Гаварыць аб тым, што беларускім прадпрыемствам патрэбна наладжваць гаспадарчыя сувязі вытворчай кааперацыі з расійскімі сёння азначае дэманстраваць поўную недасведчанасць аб сапраўдным рэальным стане расійскай эканомікі. Бо зараз большасць расійскіх прадпрыемстваў свае вытворчыя сувязі скіравалі на свае ж, г.зн., расійскія заводы і фабрыкі. Таму тэарэтычнае навязванне ім беларускіх сумежнікаў азначае падзенне попыту на прадукцыю аналагічных расійскіх прадпрыемстваў, на што расіяне, вядома, не пойдуць.

І гаварыць прадпрыемцам аб славянскім братэрстве, блізкасці народаў, гісторыі і г.д. — гэта прыблізна тое, як ліць ваду супраць вялікага ветру.

Беларусы, здаецца, добра ведаюць становішча спраў у Расіі, але яны яшчэ не могуць зразумець да канца, што ў Расіі ўжо капіталізм. Як многія не могуць зразумець, што вяртання да мінулага — не будзе. Двойчы нельга ўвайсці ў адну і тую ж рэчку, бо вада — змянілася...

Асабіста я шкадую аб мінулым, але... Правядзенне кангрэсаў па аднаўленні былой дзяржавы нічога не дасць, апроч вялікіх выдаткаў на іх правядзенне. Колькі ні кажы халва, салодка ў роце не будзе.

Як вядома, гістарычныя паралелі — кульгаюць, але калі бальшавікі бралі ўладу, то яны спадзяваліся (пра гэта прама гаварыў Ленін), што будзе сусветная рэвалюцыя. Яе, аднак, не адбылося. Не спраўдзяцца і словы Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што ў Саюз увойдуць у хуткім часе былыя савецкія рэспублікі, і ў першую чаргу — Украіна. З вельмі вялікай нацяжкай можна дапусціць, што ў яго могуць увайсці Арменія і Кіргізія, але ж яны ўвесь час у былым СССР былі датацыйнымі. І калі такое здарыцца, яны, вядома, будуць датацыйнымі і зараз...

Напярэдадні падпісання дагавора расійскія газеты ў адказ тым, хто не надта падтрымліваў Саюз, падкрэслівалі, што беларускі народ вельмі працалюбівы, што сельская гаспадарка ў Беларусі куды больш развітая, чым у Расіі, што Беларусь у савецкія часы рабіла ў агульную казну вялікі ўнёсак. Але давайце ўспомнім, ці так ужо добра мы жылі, ці былі нашы вёскі падобны да вёсак Паўночнага Каўказа ці Прыбалтыкі? Няўжо мы ўжо забыліся, як стаялі ў чэргах, каб купіць каўбасы ці кароўе вымя? У маім родным Жлобіне быў і ёсць вялікі мясакамбінат, але 10—15 гадоў назад у магазінах мяснай прадукцыі тут не было, цягнікі з ёю ішлі кудысьці на ўсход. Вельмі кароткая памяць у многіх! Гаварыць аб мінулым у "ружовых танах" — гэта значыць, смяяцца з самога сябе, і не болей.

Колькі разоў задаю сабе пытанне і не магу даць адказ: чаму Беларусь не можа быць самастойнай дзяржавай? Яна ж была ў самых лепшых адносінах з суседнімі краінамі, і ў першую чаргу — з Расіяй. Вядома, што ў невялікіх дзяржавах народ жыве значна лепш, бо там можна навесці лепшы парадак. І хутчэй. Расійскія эканамісты лічаць, што ў Расіі жыццё стане больш-менш нармальным праз 40—50 гадоў, і то пры ўмове, што не будзе катаклізмаў. Гісторыя ж дала шанц беларусам стварыць сваю незалежную дзяржаву, чаму ж яго не выкарыстаць? Чаму мы лічым, што без расійскай нафты, газу і вуглю — не пражывём? Так, за іх трэба плаціць, танны сыр толькі ў мышалоўцы. Дзеля гэтага Беларусь магла б выкарыстаць сваё вельмі выгаднае геаграфічнае становішча. Расійскія эканамісты добра ведаюць, што беларуская казна папаўнялася б ужо за кошт падатку, які яна брала б за чыгуначныя, шашэйныя магістралі, што вядуць на Захад і без якіх не могуць абысціся ні Расія, ні былыя рэспублікі Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, іншыя азіяцкія дзяржавы. Можна было б зменшыць да мінімуму армію. У Беларусі някепская сельская гаспадарка. Яна магла б даваць казне вялікі прыбытак. Умеем мы выпускаць і неблагія прамысловыя тавары.

Адным словам, Беларусь, як самастойная дзяржава, магла б існаваць і народ жыў бы прыстойна...

А сёння між тым можна не сумнявацца, што праз гадоў 40—50 у Беларусі будзе праведзены рэферэндум з адным пытаннем: "Считаете ли вы себя представителем великорусского этноса?" Да таго часу будзе ліквідавана ўсё нацыянальнае, г.зн. не будзе ні мовы, ні самабытнай культуры беларусаў. І адказ на гэтае пытанне будзе станоўчы. А калі ўсё ж не, дык спрацуе формула таварыша Сталіна: "Не важно, как проголосовали, а важно, как подсчитали".

Беларусь, яе культура, народ, можа знікнуць у бездані гісторыі, як калісь Атлантыда...

Мне могуць запярэчыць: гэта немагчыма! Чаму? Усё магчыма, калі ўсе магчымасці не аналізаваць, не прадбачыць, не супрацьпастаўляць тым з іх, якія найбольш небяспечныя: страта дзяржаўнасці, незалежнасці, мовы.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ**

*г. Манчагорск Мурманскай вобласці*

## У гонар Канстанціна Саннікава



4 чэрвеня, у Мінску, па праспекце Ф. Скарыны ў доме, дзе жыў вядомы рэжысёр і педагог, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Канстанцін Мікалаевіч Саннікаў устаноўлена мемарыяльная дошка выдатнаму дзеячу культуры Беларусі.

*На здымку: у час цырымоніі.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## Свята мастацтва ў касцёле

**У Мінску ў Чырвоным касцёле адбылося святкаванне Дня святога духу, дзе, акрамя першага прычашчэння "Чысціні маёй белая кветка", на працягу дня было праведзена шмат канцэртных выступленняў.**

**Цікава прайшло прадстаўленне-віншаванне "Белая кветка — крыніца любві" — пастаноўка Н. Міцкевіч, рэжысура і музычнае афармленне студэнтаў Беларускага універсітэта культуры. У свяце ўдзельнічалі акцёры духоўнага тэатра "Анёл" і ўзорны хор хлопчыкаў "Саловушка".**

**Тэатр-студыя "Кураж" паказала для дзяцей сірот і інвалідаў дабрачынны спектакль-казку пра ласкавага гусяня Дарафея.**

**У галерэі касцёла можна было пазнаёміцца з выставай прыкладнога мастацтва дзяцей "Святло душы маёй".**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## Сям'я керамістаў



**У выставачнай зале Саюза мастакоў Беларусі ў Віцебску паказалі сваю мастацкую кераміку муж і жонка Валерый і Людміла Кавальчукі. Выпускнікі знакамітага Абрамцаўскага мастацка-прамысловага вучылішча, удзельнікі многіх выстаў як на Беларусі, так і за яе межамі, яны прадставілі на суд гледачоў каля 80 твораў.**

*На здымку: знаёмства з экспазіцыяй.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# Юры Аляксандравіч КАРАЧУН



Беларускае выяўленчае мастацтва панесла цяжкую страту.

11 чэрвеня 1997 года на 66 годзе жыцця памёр заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея, старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта Міжнароднай арганізацыі музеяў (ICOM) Юры Аляксандравіч Карачун.

Уся свядомая частка жыцця Ю. А. Карачуна звязана з развіццём прафесійнага выяўленчага мастацтва Беларусі — фундаментальным пластам нацыянальнай спадчыны. Ю. А. Карачун нарадзіўся ў г. Мінску ў сям'і служачага. Пасля заканчэння Мінскага мастацкага вучылішча, Маскоўскага паліграфічнага інстытута ён працаваў мастацкім рэдактарам. Сельгасвыдата БССР, выдавецтва "Ураджай", галоўным рэдактарам мастацка-экспертнай калегіі, начальнікам аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў Міністэрства культуры, начальнікам аддзела рэкламы і вытворчай графікі Гандлёва-прамысловай палаты БССР.

З 1977 года да апошняга дня жыцця Ю. А. Карачун быў дырэктарам Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Дзякуючы яго арганізатарскаму таленту, асабістай патрабавальнасці і высокай кампетэнтнасці, праяўленых у гады плённай працы як у дзяржаўным апараце, так і на пасадзе кіраўніка вядучай установы культуры, у рэспубліцы паспяхова працягнуты працэс стварэння, збору і захавання твораў выяўленчага мастацтва, арганізавана рэстаўрацыя буйнейшых помнікаў архітэктуры ў Міры, Гальшанах, Магілёве, Мінску з мэтай размяшчэння ў гэтых будынках сабраных калекцый, якія адлюстроўваюць розныя перыяды развіцця культуры Беларусі.

Ён актыўна садзейнічаў прапагандзе твораў выяўленчага мастацтва сродкамі масавай інфармацыі, з'яўляўся аўтарам шэрагу альбомаў, манаграфій і артыкулаў па праблемах мастацкай крытыкі.

Ю. А. Карачун меў высокі аўтарытэт сярод музейных спецыялістаў, калег па мастацтве рэспублікі, блізкага і далёкага замежжа.

Ім у значнай ступені пашыраны сувязі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь з вядомымі музеямі Расіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Польшчы, Кітая і інш.

На ўсіх адказных пасадах Юры Аляксандравіч прынцыпова ставіўся да даручанай справы, з належнай чалавечай цеплынёй падтрымліваў працоўную і творчую ініцыятыву ў калектывах, дзе ён працаваў.

Светлая памяць аб Юрыю Аляксандравічу, выдатным дзеячу беларускай культуры, назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**А. Р. Лукашэнка, С. С. Лінг, М. У. Мясніковіч, П. У. Шыпук, А. А. Малафееў, У. В. Русакевіч, І. І. Пашкевіч, А. У. Сасноўскі, У. В. Ярмошын, Г. І. Баркун, Г. В. Буралкін, Г. Х. Вашчанка, В. А. Грамыка, М. В. Данцыг, І. П. Загрышаў, Я. М. Кавалеў-скі, А. М. Кашкурэвіч, А. М. Кішчанка, І. М. Паньшына, Г. Г. Паплаўскі, М. А. Савіцкі, Д. А. Сурскі, У. І. Стальмашонак, Я. Р. Чамадураў, В. П. Шарангові, Л. Д. Шчамялёў.**

# На вечную памяць

***Пайшоў ад нас Булат Акуджава — відаць, апошні "стары" рамантык. На свеце стала куды самотней...***

***Памятаю, як колькі год таму яны з сынам Антонам выступалі ў нашай філармоніі. Перад канцэртам адзін заслужаны артыст Беларусі (sic!), які пазней стане адным з сааўтараў вядомых "Дзяцей хлусні", на ганку філарманійнага будынка крышыў пласцінкі з песнямі Акуджавы.***

***Калі канцэрт скончыўся, я, тагачасны дэпутат Вярхоўнага Савета, зайшоў да Булата Шалвавіча і там, за кулісамі, папрасіў у яго прабачэння за тых "славянскіх сокалаў", каму нянавісць выядае вочы. І падарыў вялікаму барду стос лісткоў — маіх спроб перакладу яго песень на беларускую мову. І не збіраўся нічога з таго публікаваць, пакуль ён жывы.***

***Сёння яго няма. І на Вечную яму Памяць я дастаў колькі з копіяў тых лісткоў. Можа, ён бы прапяяў нам па-беларуску менавіта так...***

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

### З ПЕСЕНЬ БУЛАТА АКУДЖАВЫ

### Апошні тралейбус

*Калі я, не здужаўшы новай бяды,*
*пакутую ў роспачы змрочнай,*
*я ў сіні тралейбус сядаю тады —*
*ў апошні, паўночны.*

*Апошні тралейбус, па вулках імчы,*
*кружыся, нясі суцяшэнне*
*усім тым, каго напаткала ўначы*
*крушэнне, крушэнне!*

*Апошні тралейбус, ляці, не марудзь!*
*Я знаю, як ноччу халоднай*
*твае пасажыры-матросы даюць*
*прытулак зазсёдны.*

*Плячо да пляча дотык у цішыні*
*быў мне ад бяды ўратаваннем...*
*Як многа, уявіце сабе, дабрыні*
*ў маўчанні, ў маўчанні.*

*Апошні тралейбус Масквою плыве,*
*у досвітак брук выцякае,*
*і боль, што шпачком стукаў мне ў галаве,*
*сціхае, сціхае.*

### Песенька пра боты

*Вы чуеце, як боты б'юць аб брук,*
*і птушкі ашалелыя ляцяць;*
*жанкі глядзяць з-пад натамлёных рук...*
*Вы ўцямілі, куды яны глядзяць?..*

*Вы чуеце: грукоча барабан?*
*Салдат, кажы "бывай" ды ідзі шпарчэй.*
*Узвод ідзе ў туман, туман, туман,*
*мінулае бліжэй, бліжэй, бліжэй...*

*Дзе ж гэта смеласць вашая, салдат,*
*тады, як мы вяртаемся назад?*
*Яе, відаць, сабе жанкі бяруць,*
*як птушаня, за пазуху кладуць...*

*А дзе жанкі, мой дружа, калі зноў*
*пасля ўсяго прыходзім мы дамоў?*
*Яны вітаюць нас, вядуць у дом,*
*а ў нашым доме пахне крадзяжом.*

*І на былое мы рукой: хлусня!*
*Мы ў будучыню верым: больш свята!*

*А ў полі чорна ўсё ад груганя,*
*а з нас вайна нікуды не сышла.*

*Зноў у завулку боты б'юць аб брук*
*і птушкі ашалелыя ляцяць,*
*жанкі глядзяць з-пад натамлёных рук,*
*усё нам у патыліцы глядзяць.*

### Песня пра адчыненыя дзверы

*Калі вядзе завея рэй,*
*страх наганяе й жудасць,*
*не зачыняйце вы дзвярэй —*
*адчынены хай будуць.*

*Як павядзе — уявіце — вас*
*дарога дзе далёка,*
*хай дзверы будуць увесь час*
*расчынены шырока.*

*Дом пакідаючы начны,*
*рашайце, не марудзьце:*
*агонь душы з агнём сасны*
*перамяшайце ў грубцы.*

*Няхай ахутвае цяпло*
*сцяну ды лаву ўпарта,*
*зачыненыя дзверы — тло,*
*замок — не болей варты!*

### Яшчэ адзін раманс

*Адбіткам у маёй душы —*
*партрэт адной чароўнай панны.*
*Яе пагляд да іншых скіраваны дзён.*
*Там добра, лішніх там няма,*
*там страхам час не зруйнаваны*
*і маюць даравание ўсіх усе здавён.*

*Музыкі ўсе ў сурдутах ладных,*
*і свае харалы строіць*
*у гонар панны, як даўней, магутны хор.*
*Ды, Божа, музыка другая*
*з нотай кожнай лепей гоіць,*
*і ў пальцах палачку ламае дырыжор.*

*Свой ці зняважу лёс паспешлівай*
*і марнаю слязою?*
*Ды толькі скрушлівае цвеліць пачуццё:*
*што мы, спадарства, ёсць —*
*як параўнаць з чароўнай паннай*
*тою!*
*Што нашы панны ёсць ды нашае жыццё!*

*Яна й цяпер, магчліва,*
*мне душу даверліва адкрые,*
*і неба ўдзячнае за гэта ёй; адно,*
*хоць піша, пэўна, мне яна,*
*ды паштары ўжо ўсе старыя,*
*і адрасы ўсе памяняліся даўно.*

### Пра Валодзю Высоцкага

*Пра Валодзю Высоцкага браўся*
*я песню складаць.*
*Вось яшчэ аднаму не вярнуцца дадому*
*з паходу.*
*Кажуць: рана памёр, быў ён грэшны...*
*Ды што тут казаць —*
*як умеў, так і жыў.*
*А бязгрэшны не ўсцешыць прыроду.*

*Развітанне цяпер не надоўга.*
*Міне колькі дзён —*
*выбірацца і мы будзем следам*
*вгоным гарачым.*
*Хай грыміць над Масквою ахрыплы*
*яго барытон,*
*ну, а мы пасмяёмся з ім разам*
*і разам паплачам.*

*Пра Валодзю Высоцкага песню*
*я скласці хацеў,*
*ды знямела рука,*
*і з мелодыяй верш размінуўся...*
*Белы бусел маскоўскі*
*да белага неба ўзляцеў,*
*чорны бусел маскоўскі*
*да чорнай зямлі дакрануўся.*

### Дарожная песня

*Пакуль што ўбор не пашыты мой шлюбны*
*і нам у царкве не спяюць...*
*Ды час падганяе, вазак гэты згубны,*
*і коні да высяў імкнуць...*

*Ах, колькі б, наш цуг,*
*нас убок не аднёс ты,*
*каб толькі званочак не сціх...*
*Дзвюх вечных сяброўак,*
*пяшчотна ды ростань,*
*ніколі не ўбачыш адных.*

*Мы самі запрэглі тых коней, мы самі*
*памчалі з двара, аж зірні:*
*ужо быццам штосьці зіхціць перад намі*
*і штосьці — блякне ўдалечыні.*

*Адно аднаго зразумець — гэта проста,*
*як іх не забыць праз гады —*
*дзвюх вечных вандроўніц,*
*пяшчоту ды ростань:*
*яны дапамогуць заўжды.*

*Сяброў галасы даражэй з кожным годам,*
*а дні пачалі карацець...*
*Каб толькі званочку вызваньваць заўсёды,*
*вачам каб у вочы глядзець.*

*То бераг, то мора, то спёка, то росы,*
*то ластаўкі, то груганы...*
*Дзве вечныя сцежкі, пяшчота ды ростань,*
*мне ў сэрца ўваходзяць яны.*

*Там, дзе выступ халодны і чорны*
*Вадаспадам зрынаецца ўніз,*
*Я крычу ля маўклівай пячоры:*
*Дыяніс! Дыяніс! Дыяніс!*

Эдуард БАГРЫЦКІ

# "І не ўвядзі нас у спакусу..."

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

**I**

У гэтую краіну мы падарожнічаем даволі часта. Так ці інакш межы яе пераходзіла большасць з нас. Ёсць, канечне, і такія, хто ставіцца да яе адмоўна, але, як кажуць, яны не робяць надвор'е. Некаму там вельмі падабаецца, і ён імкнецца заставацца там як мага больш, а то і зусім не хоча вяртацца; нехта больш памяркоўны праз пэўны час спяшаецца вярнуцца "на кругі своя". Ну а калі па шчырасці, то ў той краіне добра ўсім. Там некуды знікаюць раптам усе праблемы, як вялікія, так і малыя — ад лёсу дзяржавы да лёсу толькі што пасаджанай на "дачы" цыбулі, ад несправядлівага начальства да сварлівай жонкі. Гэта там дзіў-

Па ўсім відаць, што адданасць краіне Бахуса — гэта не толькі хвароба, а сапраўды нейкія чары. На адных яны ўздзейнічаюць імгненна, у іншых ёсць нейкі імунітэт. Прычым, у "палон" трапляюць не толькі слабейшыя ці звычайныя нікчэмнасці, якіх зусім нямала сярод чалавечага племені, не толькі духоўна пустыя, але і вельмі часта людзі моцныя, упэўненыя ў сабе, вельмі валявыя, і, як мы ўжо адзначалі, нямала адораныя ад Бога... Наўрад ці ўся справа і ў пэўнай спадчыннасці, якая быццам бы жорстка вызначае кірункі жыцця, у тым ліку і шлях у Краіну Бахуса.

Надзвычай цікавае і яшчэ адно пытанне: а што яны ўсе так апантана шукаюць у гэтай дзіўнай краіне? Ці не таго добра знаёмага нам жураўля ў небе, якога тут, у рэальнасці, аніяк не разгледзець, а тым больш не злавіць за хвост? Можа, і праўда адкрываецца там нейкая запаветная таямніца, якую ніколі нам інакш не разгадаць? Нездарма

краіне, апантана штурмуючы яе межы, цэлыя дывізіі, арміі тых, хто заўсёды быў "соллю" гэтай зямлі, хто многімі стагоддзямі карміў не толькі сябе, але і ўсемагчымыя эліты і багемы. Што шукаюць там хлебаробы, рабочыя? Наўрад ці яны, падобна сваім вялікім творча неардынарным сабутэльнікам, шукаюць нейкую Агмень-птушку, што разам вырашыць усе іхнія праблемы. Хутчэй за ўсё ў большасці сваёй яны проста хаваюцца ад саміх сябе, ад бязлітаснай і зусім невясёлай рэчаіснасці, ад той знуральнай адказнасці за цяжка здабываемы штодзённа кавалак хлеба для сваіх дзяцей. Безумоўна, сярод іх ёсць і такія, хто пра тых дзяцей мала дбае...

Тыя "штурмы" адбіраюць зусім нямала часу. Бывае, што паглынаюць яго цалкам. І ў самім слове "штурмы" зусім няма нейкага вобразнага перабольшання, хоць межы тае краіны ніхто не абараняе, акрамя, хіба, дзесятка-другога дарэшты раззлаваных і

пра будучыню сваіх дзяцей, пра свой дом, пра сваю Бацькаўшчыну! Усё зводзіцца да аднаго — найхутчэй пераадолець мяжу гэтую жаданай краіны, а там — хоць трава не расці! І не расце! Ні трава, ні бульба, ні пшаніца, ні цяляты з парсюкамі. Нічога пасля 40-градуснага "паліву" не хоча расці... Не з'яўляюцца станкі і машыны, не будуюцца дамы, не нараджаюцца дзеці... Хаця — не, дзеці нараджаюцца, нават у геаметрычнай прагрэсіі. Гэта якраз з імі — нашчадкамі найбольш імпэтных "каланізатараў" Краіны Бахуса, дзецьмі ці то "п'янай нядзелі", ці то яшчэ якога дня тыдня, ніяк не могуць разабрацца потым у школе бедныя настаўнікі, са здзіўленнем заўважаючы, што большая палова класа мае, мякка кажучы, "неадэкватную рэакцыю". Потым пацыху "неадэкватныя" становяцца і самі сейбіты разумнага і вечнага...

Нікуды не схавацца ад таго факта, што пасля занадта інтэнсіўных падарожжаў у тую "шчаслівую" краіну людзі пачынаюць вельмі моцна мяняцца, прычым зусім не ў лепшы бок. Пад грувасткім парасонам таго "шчасця" рвуцца, лопаюцца і крышацца практычна ўсе маральныя звязкі, сцяжкі і тармазы. Чалавек вельмі хутка становіцца сапраўды вольным... ад абавязкаў, доўгу, законаў. Там лёгка вызваляюцца ад дабрыні, спагады, любові.

Хіба можна назваць любоўю той сурагат, што ўтвараецца пры інтэнсіўным "падагрэве" пачуццяў? Хіба можна назваць любоўю, чалавечнасцю тое, што можна ўбачыць зранку ў вачах людзей, якія напярэдадні добра "ашчаслівіліся" ў той краіне? У спустошаных некай пошасцю вачах тых мы ўбачым толькі нешта страшнае і нечалавечае... Усё добрае, светлае, шчырае бяз-

ным чынам амаль цалкам раствараюцца час і прастора, пераносячы нас і нашых спадарожнікаў у нейкае абсалютна іншае вымярэнне, дзе ўсё так гожа і ладна. Гэта там апаноўвае нейкі незвычайны настрой і людзі, што ўшчэнт пазабывалі мацярынскія і бабуліны песні, раптам пачынаюць іх спяваць... Карацей, там мы становімся амаль што шчаслівымі. Амаль. Бо размова ідзе не пра рэальнае жыццё, а пра краіну ілюзій, дзе пануе Яго Вялікасць Бахус...

Што ж, па вялікімі рахунку заблукаць туды — справа даволі звычайная. Гэты грэх уласцівы не толькі простаму народу, у якога сёння (ды і ўчора было) не вельмі салодкае жыццё. Там знаходзілі і знаходзяць сабе прыстанішча і многія з Вялікіх гэтага свету: палітыкі, банкіры, творцы рознага кшталту — адным словам эліта. Чаго не бывае ў нашым жыцці! Можа, і не трэба звяртаць на гэта ўвагу, бо людзі заўсёды шукаюць сабе нейкую, хоць і ілюзорную схованку ад жорсткага прэсінгу часу і абставін, дзе на нейкі момант можна "адвесці душу".

Усё было б, можа, і добра — ну заблукалі, ну "расслабіліся", каб ведаць толькі час і норму... Ды бяда ў тым, што многія з тых утульных, сімпатычных, амаль райскіх гушчароў ужо ніколі не вяртаюцца. Тыя "джунглі" вельмі каварныя і далёка не ўсе сцежкі могуць вывесці з іхніх нетраў. Страшэнны і доўгі спіс тых, хто не змог (ці не захацеў) знайсці дарогу назад. Якое бліскучае сузор'е імён, які вялізны, безумоўна не да канца рэалізаваны духоўны і творчы патэнцыял?

Там назаўсёды заблукалі і многія з нашых вядомых пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў. Дарэмна чакалі іх доўгі час родныя, блізкія, сябры, каханыя, іх пісьмовыя сталы і мальберты. Цёмныя гушчары тых "райскіх кушчаў", бы той Малох, паглынулі беззваротна красу і гонар многіх краін і народаў, і беларусы тут, мякка кажучы, зусім не выключэнне. Разам з "выбранымі" бясследна зніклі там і дзесяткі мільёнаў простых, моцна не абцяжараных праблемамі культуры і мастацтва людзей, у якіх таксама былі родныя, блізкія, каханыя...



Фота А. Клешчука.

Дзіўная ўсё-ткі гэтая краіна! Вельмі рознымі шляхамі ідуць да яе. Нехта ўпарта прабіваецца туды самастойна, некага вядуць за ручку, а некаторых дык і ўвогуле цягнуць гвалтам. Праўда, апошніх вельмі мала. Пераважная большасць усё ж "добраахвотнікі". Нечым жа прыцягвае яна столькі людзей адразу, зачароўвае іх не горш за Бабу Ягу. Мусіць, было б вельмі проста, калі б гэтае прыцягненне было толькі дурманам, калі б прага прыпасці да спакусных крыніц была толькі хваробаю... Хваробу, як бы там ні было, можна лячыць. Ды і лечаць. Колькі зараз развялося ўсемагчымых магаў і чарадзеяў, якія абяцаюць у імгненне вока вылечыць ад "алкагалізму і запою" ды яшчэ і ад "энурэзу" ўпрыдачу. Некаторыя пасля таскага апаратыўнага лячэння сапраўды забываюць дарогу ў гэтую краіну, але неяк зусім мяняюцца, становяцца быццам бы штучнымі, несапраўднымі... Усё быццам бы на месцы — і нос, і вушы, нават вочы, але з людзей гэтых быццам вынялі нейкі жывы стрыжань, а замест яго ўставілі адмысловую спружыну. А спружыну, як вядома, нехта мусіць рэгулярна "накручваць"...

так імкнуцца туды людзі творчых прафесій...

Адным словам, таемная, прыцягальная і даволі злавесная краіна. Ці не пра яе пісаў калісьці Аляксандр Пушкін, сцвярджаючы, што "там на нязведаных дарожках сляды нябачаных звяроў"? Вось і гуртуецца на гэтых "дарожках" велізарная колькасць "следапытаў", што мэтаю жыцця паставілі тых нябачаных звяроў усё ж пабачыць... Кажуць, некаторым шанцуе і яны іх бачаць-такі. Але чамусьці ўсе тыя звяры на коней падобныя... Белых...

Зусім верагодна, што і нейкі запаветны скарб ці запаветны камень у той краіне можна знайсці. Можа, якраз ён і адкрывае нязведаныя дагэтуль творчыя таямніцы. Але ясна адно — уладары тае краіны нічога так проста не аддаюць. Узамен яны, як правіла, патрабуюць вельмі вялікі кошт — уласную душу "ўдачлівага" шукальніка...

**II**

Але пошукам запаветнага каменя, што робіць лёгка дасягальным творчы Алімп, займаюцца, як мы ўжо адзначалі, людзі зусім пэўных прафесій. Адным словам — багема. Што шукаюць у гэтай незвычайнай

гатовых на ўсё жонак "штурмавікоў", у якіх вельмі лакальная задача. Няма на тых межах не тое што крапасных бастыёнаў, але і нават тоненькага дроціка-агароджы з прапушчаным па ім токам-напружаннем у 6 вольт. Хто ведае, можа, для некаторых гэтага было б і дастаткова, як для некаторых шкодлівых кароў, што маюць справу не з жывым пастухом, а з электрычным. Але наўрад ці які-небудзь нават супермоцны электра-ці нейкі іншы пастух здольны спыніць тую масіраваную атаку-штурм. У "бой" ідуць сёння далёка не "адныя старыя", ідуць салідныя шэрагі здаровых і моцных мужчын, маладых хлопцаў, нават школьнікаў. Ды і не адзін "моцны пол", загартаваны ў шматлікіх "выпрабаваннях", вядзе рэй — годнае месца ў тых шэрагах заняла і прыгожая палова чалавецтва. У гэтую захапляльную атаку побач з дзядамі, бацькамі, сынамі мужна рынуліся бабулі, маці, дочкі. Вось вам і захапляльныя "ачага"! У гэтай "святой" справе слабы пол, насуперак вядомай прымаўцы, зусім не прагне ўсё зрабіць наадварот, а з усіх сіл імкнецца патрапіць у агульны "пераможны" рытм.

Дзе там клапаціцца пра хлеб надзённы,

літасна выпальваецца з душы — застаецца халодны попел невымернага эгаізму. Чым далей "ідзе працэс", тым болей азлабляецца і чарсцвее чалавечая душа. Паступова замест добрага і слаўнага раней чалавека застаецца толькі пачварная, бяздушная, але вельмі прагная абалонка...

Не расце трава... не растуць дзеці. Імклівa гіне генафонд нацыі, яе будучыня. І калі мастак, творца, заблукаўшы ў гэтую краіну ілюзій, гіне — у горшым выпадку — сам, паспеўшы, згараючы, выдаць "на гара" нешта надзвычай экстравагантнае і неардынарнае, то бульбавод, даярка, токар, сантэхнік у тым полымі выпальваюць цэлыя плантацыі бульбы, пшаніцы, карoўнікі з нявыдаенымі каровамі і ненакормленымі цялятамі, разбіваюць ушчэнт сотні машын, пазбаўляюць нашыя дамы на доўгі час цяпла і святла...

**III**

Чаму ж так адбываецца? Ці ёсць у гэтай справе вінаватыя, а калі ёсць, то, кажучы словамі вялікіх дэтэктываў, — каму гэта выгадна? Канечне ж, найперш вінаватыя мы

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## "Сустрэча роднасных сусветаў"

**У прадмове да кніжкі Сяргея Панізніка "Сустрэча роднасных сусветаў", якую выдаў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны, напісана: "Акрамя Сяргея Панізніка цяжка назваць іншага беларускага пісьменніка (тут з ім можна параўнаць хіба што Анатоля Вярцінскага), які так захоплена і так аддана "працаваў бы" на некалькі краін і некалькі народаў, якія ледзь не аднолькава дзяліў бы свой талент і сваё сэрца паміж рознымі, славянскімі і неславянскімі, літаратурамі... Нездарма ў Беларускім таварыстве дружбы ён займае два "крэслы": старшыні рады таварыства "Беларусь—Латвія" і намесніка старшыні сябрыны "Беларусь—Чэхія". Пацвярджэннем гэтых слоў і з'яўляецца гэтая кніга. У ёй змешчаны не толькі пераклады твораў паэтаў свету на беларускую мову, але і пераклады на англійскую, балгарскую, латышскую, польскую, рускую, украінскую і чэшскую мовы вершаў С. Панізніка, зробленыя *яго сябрамі, якія жывуць за мяжой.***

**Кніга "Сустрэча роднасных сусветаў" кладзе пачатак новай серыі "Ад сэрца да сэрца", якая будзе выдавацца Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны.**

## Дзіцячы свет



**У Мінску, у Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы, прайшла выстава малюнкаў "Дзіцячы свет", *прысвечаная* Міжнароднаму дню абароны дзяцей. Юныя мастакі ў шчырых, часам наіўных работах, паказалі сваё бачанне свету і родных людзей, сяброў, што саграваюць іх дзяцінства любоўю. Многія малюнкі дзяцей — яскравае сведчанне таму, што дзеці вельмі часта "бачаць" сэрцам.**

*На здымку: юныя мастакі Вольга Залатнікова, Вольга Нятылькіна, Алег Ягадзінцаў.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## Тэма — інфармзабеспячэнне навукі

**27—28 мая ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі праходзіла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Праблемы інфармацыйнага забеспячэння навукі". У ёй *прымалі* ўдзел спецыялісты з бібліятэк Беларусі і бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук. Абмяркоўваліся пытанні кнігадруку Беларусі і Літвы, камплектавання бібліятэк з мэтай арганізацыі больш поўнага інфармацыйнага забеспячэння вучоных, разглядаўся стан кнігаабмену ЦНБ АН Беларусі з краінамі СНД і Балтыі, сучасны стан камплектавання фондаў замежнымі выданнямі, вопыт укаранення і практычнага выкарыстання аўтаматызаваных бібліятэчных сістэм, якія забяспечваюць вучоным больш аператыўны доступ да неабходнай інфармацыі, і многія іншыя пытанні, вырашэнне якіх дазволіць палепшыць становішча ў сферы інфармацыйнага забеспячэння навукі.**

**У рамках канферэнцыі працавала выстава "Літоўская навуковая кніга", якая была прымеркавана да 450-годдзя літоўскага кнігадруку. Трошкі раней, 15 мая, у ЦНБ АН Беларусі была адкрыта выстава "Беларускія выданні біблейскіх кніг 16—20 стагоддзяў", якая была прысвечана, у сваю чаргу, 480-годдзю беларускага кнігадруку.**

**Ю. М.**

# З гледзішча вечнасці

## КРЭСКІ Ў ЖЫЦЦЯПІС НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

**Ч**ОРТАЎ плюшч праз вузкую шчыліну залез на зашклёную кніжную паліцу і абхапіў сваімі бела-зялёнымі прысмочкамі кнігу. Ён прагна ўпіўся ў мяккую вокладку, распіхваючы цесны кніжны шыхт, прабіраўся далей, каб замкнуць кола сваіх драпежных абдымкаў. Спахапіўся я запозна — на факсімільным выданні паэзіі Наталлі Арсенневай "Пад сінім небам" назаўсёды засталіся сляды, здавалася, такой лагоднай і бяскрыўднай расліны.

Потым ужо я даведаўся, што навуковая назва плюшча — сцындапсус, што паходзіць ён з сямейства ліянаў, што чортавым плюшчом яго спрадвеку менавалі ў народзе. А таксама не раілі трымаць у спальнях і паблізу працоўнага месца. А тады, з цяжкасцю адрываючы ад кнігі прысмочкі, гэтак падобныя да васьміногавых, я перажыў нейкі містычны пострах, нібы ў адзінокай інтэрнацкай келлі прысутнічаў нехта невідучы. Праз некалькі дзён, нягледзячы на тое, што я сумленна працягваў выконваць інструкцыі адпачываючай на Случчыне жонкі наконт паліву ўсяго ейнага батанічнага кутка, чортаў плюшч неяк увесь раптоўна пабляк, змізарнеў і пачаў засыхаць. Яго не цікавіла сонечнае святло, яму як бы падсеклі карані, як бы адарвалі ад крыніцы сілкавання.

Разгарнуўшы зборнік Арсенневай, я быў літаральна прыгаломшаны выбухам фарбаў, феерверкам веснавых радасных эмоцыяў:

***Неба сіняе, сіняе, сіняе...***
***Ані межаў у ім, ані дна.***
***На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю***
***пазірае мне ў вочы вясна.***
***Лазнякі срэбным пухам акрыліся,***
***вецер пыл па-над імі мяце,***
***тут — пралескі ў раўку затаіліся,***
***сіроцінай фіялка цвіце,***
***там — жаўцеюць вяночкі вясновыя***
***красак, нейкіх нязнаных яшчэ,***
***там — ізноў, залатыя, ліловыя...***

І я зразумеў, што вампіры існуюць не толькі ў абрыдлых, як горкая рэдзька, фільмах жахаў, і не толькі сярод людзей.

Постаць Арсенневай ужо даўно набыла абрысы легендарнасці ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства. Уявіце сабе: жыве ў невялікім амерыканскім гарадку Рочэстар паважанага веку жанчына. Атожылак на радаводным дрэве, якое ўзгадавала аднаго з геніяльнейшых паэтаў свету Міхаіла Лермантава. Вучаніца Максіма Гарэцкага і Антона Луцкевіча. Каляжанка (па заходнебеларускім літаратурным руху) Максіма Танка — ён прысвяціў ёй цудоўны верш "Нашы дарогі". Аўтар беларускага неафіцыйнага гімна "Магутны Божа" — яго пашанліва спяваюць суродзічы па ўсім свеце. Ёй яшчэ ў 20-я гады прарочылі бліскучую будучыню літаратурныя мэтры. І разам з тым — амаль поўнае забыццё на Радзіме. Гадоў колькі таму мільгануў белым ветразікам на адраджэнскай хвалі амаль адначасова перавыдадзены выдавецтвамі "Мастацкая літаратура" і "Бацькаўшчына" яе першы віленскі зборнік (на які і пакваліўся падступны чортаў плюшч).Даволі вялікая нізка вершаў Арсенневай *змяшчалася* ў *анталогіі* "Туга па Радзіме". Але, як заўважыла і сама паэтка, падбор аўтараў і твораў у той анталогіі быў нейкі дзіўны. Дзіўнымі і незразумелымі можна назваць і адносіны дзяржаўнага выдавецтва да асобы Арсенневай — так, яе вершы вывучаліся ў школе, але выдаць салідны том, на які даўно заслугоўвала паэтка, шмат гадоў нешта перашкаджала. Ажно пакуль Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку не дапамог фінансава. Кніга чакалася гэтак доўга, што выйшла зусім нечаканая, асабліва калі ўлічыць сённяшняе становішча нацыянальнай культуры.

Наталля Арсеннева ўмееназіраць прыроду, мембрана яе душы адчувальная да ледзь улоўнага павеву прыгажосці — ці гэта восеньскі ліст,ці каліва расы ў павуцінавых шатах. Увогуле, незразумела, якую крамолу знаходзіла савецкая цэнзура ў бязважкай, як воблакі, пейзажнай лірыцы паэткі. Відаць, прычына падазронасці карэнілася ў біяграфіі, якая, на думку ідэалагічных наглядчыкаў, не адпавядала стэрыльным патрабаваннем: а як жа, удзельнічала ў 2-м Усебеларускім кангрэсе, не пажадала вярнуцца ў СССР пасля перамогі. Гэта ж яна, Арсеннева, у 1942 годзе напісала верш "Жыве Беларусь", дзе ні слова не сказана пра геравічную партызанскую барацьбу, дзе няма заклікаў накшталт "рэжце гітлерцаў паганых", а сцвярджаецца пра спробу станаўлення беларускай дзяржаўнасці:

***Радасць жаўранкам звоніць***
***над хмарамі,***
***хай не згледжу яе, не збяру...***

***Дні насталі важкія, змагарныя,***
***зноў***
***спрабуе расці Беларусь.***

Што ж гэта былі за спробы?

Пасля татальнай забароны ўсяго сапраўды беларускага, пасля жахлівых трыццатых гадоў, калі нават гаварыць голасна на роднай мове на вуліцах Мінска была непажадана (Арсеннева ў сваіх успамінах прыгадвае на гэты конт перасцярогу Кучара) — на Беларусі абуджаецца нацыянальнае жыццё: пачынаюць выходзіць беларускія перыёдыкі, дзейнічаць цывільныя ўстановы, працаваць школы (падручнікі выдаюцца стотысячным накладам!). Нямецкія ўлады спрыялі беларусізацыі царкоўнага жыцця, было распачата праведзенне зямельных рэформаў. Таму не дзіўна, што многія беларусы актыўна падключыліся да працы па адраджэнні панішчанай бальшавіцкім рэжымам Бацькаўшчыны. Сваё сапраўднае аблічча фашысцкія акупанты пакажуць пазней. Як можна было ўсё прадугледзець, цвяроза ўзважыць у тых няпэўных, зменлівых ваенных умовах, калі нават сёння, маючы за плячыма суверэнную пяцігодку, беларускі народ так і не ўцяміў, хто ўяўляе найбольшую пагрозу для яго самога.

У публікацыях пра беларускіх паэтаў ваеннага перыяду не-не ды і прамільгне хоць і не катэгарычнае, згадліва-асцярожнае вызначэнне "калабаранты". Сустракаецца яно часам і ў дачыненні да Арсенневай. Дык у чым жа яе калабарацыянізм? Што вершы пра восень у акупаваным Мінску, а не ў партызанскай зямлянцы пісала? Што адгукнулася на просьбу архіепіскапа Філафея і напісала "Малітву"? Што ўдзельнічала ў тым безнадзейна-развітальным з'ездзе-кангрэсе? У зборніку матэрыялаў кангрэса, выдадзеным у Мюнхене ў 1954 годзе, маецца спіс удзельнікаў гэтага надзвычайнага мерапрыемства з абавязковым указаннем пасады дэлегата. Скажам, насупраць прозвішча Р. Астроўскага так і пазначана — прэзідэнт БЦР. Дык вось, Наталля Арсеннева ўганараваная ў гэтым спісе высокай пасадай паэткі, як, дарэчы, і Ларыса Геніюш. Іх запрасілі на кангрэс не як заслужаных дзеячак, а як вядомых ужо на той час творцаў, каб надаць вагі арганізаванаму пад грукат савецкіх гарматаў сходу. А твораў, прысвечаных акупантам, ні ў Арсенневай, ні ў Геніюш, папросту няма. Дык пры чым тут, скажыце, усе калабаранты разам узятыя і параўнанні з зацяганым па шматлікіх опусах Кнутам Гамсунам, які адкрыта ўсхваляў фашызм? І сёння знаходзяцца "выкрывальнікі" калабарацыянізму, што выступаюць прыкладна з тых самых пазіцыяў, што і "забаронцы" Н. Арсенневай (гл.: "Наша Ніва", 12 траўня 1997 г.).

Наталля Арсеннева дыфірамбаў гітлераўцам *не спявала, наадварот,* некаторыя творы непрыхавана бунтарыліся:

***Годзе!***
***Годзе нарэшце,***
***годзе***
***чарвякамі звівацца, поўзаць!***
***Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,***
***хоць ісці нам парой і коўзка, —***
***насмяёмся яшчэ і з ліха!***
***Досыць падаць прад кожным ніцма!***
***Лепш на момант агнём успыхнуць,***
***чымся літасцяй век давіцца!***
***Што далі нам калі чужыя?..***







*Гэтыя фотаздымкі Наталлі Арсенневай зроблены Анатолем Клешчуком у ЗША*

Верш "Годзе!" быў водгукам паэткі на забарону немцамі святкавання 25-х угодкаў Першага Усебеларускага кангрэса і друкаваўся ў *"Беларускай газэце" 23 снежня* 1942 года. З рук фашысцкіх спецслужбаў, якія адразу вычулі ў вершы крамолу, аўтарку здолела выбавіць Юльяна Дубейкаўская — акупанты палічылі магчымым прыслухацца да запэўніванняў сваёй перакладчыцы. Падобныя канфлікты паміж акупантамі і беларускімі прадстаўнікамі наўрад ці былі частымі, але ў Арсенневай гэты выпадак не адзінкавы. Верш "Песня каліноўцаў", напісаны да новай пастаноўкі п'есы Е.Міровіча "Кастусь Каліноўскі", разам з п'есай трапіў пад забарону адразу пасля генеральнай рэпетыцыі. Падобна на тое, што нямецкім літаратуразнаўцам у пагонах вельмі не падабалася ў вершах Н. Арсенневай беларускае слова "годзе", і на гэты раз прамоўленае адкрыта і бязбоязна, як выклік:

***Але годзе!***
***Мы ўстанем!***

***Ціхім раннем, на ўсходзе,***
***ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару***
***і ў сталёвым ад кос і ад песняў паходзе***
***возьмем волю сабе і табе,***
***Беларусь!***

"Яшчэ адна вясна" — кніга сузіральная (няглездзячы на шматлікасць клічнікаў у працытаваных творах). Няспешна ў душы паэткі праяўляецца верш-водгук на дасланы восенню ліст, на прыляцелую з неба закадаваную позву-сняжынку, на прыветны пагляд княгіні-Вясны. Насамрэч, адносіны Арсенневай да гэтак звыклых нам усім пораў года нагадваюць стасункі дзе-небудзь на вялікакняжацкім двары — калі ідзе вясна, дык "у вяночках парловых хмаркаў", "у цалунках гарачых сонцавых кос". І нават звычайныя ўборы — "у руні палёў" і "ў зеляніне садоў" успрымаюцца, як вянцаносныя шаты. Увогуле, як заўважыла Ала Сямёнава ў прадмоўным слове, на звыклія кожнагодныя з'явы паэтка ўмее глянуць як на дзіва. Н. Арсеннева рассяляе сваіх багоў у прыродзе і сама як бы раствараецца ў ёй. У вершы "Гэтак будзеш ты мной" адбываецца цудадзейства — паэтка пераўтвараецца ў восень і пачынае жыць яе адчуваннямі (падобных пранізліва-пераканальных радкоў не магу прыгадаць у беларускай паэзіі):

***Гэтак будзеш ты мной,***
***з маёй смагай і жалем,***
***я ж табою,***
***зыркою і перапялёстай.***
***Будуць людзі гукаць цябе проста***
***"Наталяй",***
***а мяне клікаць "Восеняй"***
***гэтак жа проста.***

***І пачну я***
***табой***
***паміраць на галінах***
***звонка, шчыра, і жоўта,***
***і зырка-чырвона,***
***а ты —***
***мной угарышся у вершах і чынах,***
***я — рудым пусталістам,***
***а ты — пустазвонам.***
***А мо, сэрцам змяняўшыся,***
***буду я: "восень,***
***што за ўсіх залацей",***
***ты ж — найбольшым паэтам.***
***Пахінуся табе недажатым***
***калоссем,***
***ты — заплачаш мне песняй,***
***пачатай не гэтта...***

Паэт — звястун свабоды, але яшчэ данашаэрным мысляром сказана — каб адчуць, што такое свабода, варта панасіць кайданы. Знаходжанне за кратамі дае абвостранае пачуццё свабоды, што ў сваю чаргу спрыяе творчаму самавыяўленню. І сапраўды, у турме створана цэлая літаратура.

Але магчымыя выпадкі, калі турма абіраецца як сродак прыцягнення ўвагі, папулярызацыі (Байран дзеля гэтага трымаў гарэм). Пішацца правакацыйны тэкст, і творца сам сябе зачыняе ў вязніцы. Пасля выхаду на волю гэткаму застаецца так, дробязь — напісаць выдатныя творы. Толькі тады арыштанцкая ватоўка на плячах (як гэта здарылася з Салжаніцыным і Бродскім) мае шанц ператварыцца ў нобелеўскі фрак.

Паспытала смак няволі і Наталля Арсеннева. Праўда, казахстанская высылка доўжылася толькі з 1940 па 41-ы год, а потым па хадайніцтве "высокапастаўленых асобаў" паэтка была вернута на Радзіму. Падставаў для шматгадовага абжывання краіны пад назвай "архіпелаг ГУЛАГ" было больш, чым дастаткова: "польская шпіёнка" (з Заходняй Беларусі жа), жонка афіцэра варожай арміі і г.д. Чым, якімі аргументамі маглі адстаяць паэтку тыя "высокапастаўленыя асобы" з запалоханага і разгромленага ўшчэнт беларускага Саюза пісьменнікаў перад раз'юшанай бальшавіцкай уладай? Ці мо сапраўды, вырашальную ролю адыграў той подпіс Арсенневай, які, па сведчанні Максіма Танка, спачатку стаяў пад пісьмом заходнебеларускага люду вялікаму Сталіну? Потым подпіс нібыта знік— улады датумкалі, што сціплая рамантычная паэтка не вартая быць аўтарам гэткіх эпічных твораў. Напэўна, зразумела гэта і сама Арсеннева — у тым жа сорак першым — сорак памятным годзе ёю пачатыя прысвечаны "усім зняволеным" верш з вымоўнай назвай — "КРАІНЕ".

"Яшчэ адна вясна" — кніга настальгічная. Матыў звароту на Радзіму, абазваўшыся ў нешматлікіх вершах, паступова замоўк. Мары аб вяртанні ўсведамляюцца як нязбыўныя. І далёкая Беларусь, да якой за паўвека не ўдалося дабрацца, нібы ў спірытычным сеансе, перамяшчаецца за акіян ("паэт жа — асілак"). І ўжо "вецер з Гудзону сяння нейкі зусім беларускі", і ўжо:

***Слуцкім пасам бяжыць,***
***зігаціцца дарога,***
***боты б'юць па ёй дактылі,***
***б'юць анапесты,***
***крэсяць рыфмы да змогі...***
***А мне сніцца...***
***"Мы выйдзем" — граюць трубы,***
***дзьмуць рогі...***
***Сакавік...***
***Менск...***
***Высокае Места...***

Цікава, што нават Набокаў, які адчуваў сябе ў англамоўным свеце як рыба ў вадзе, які неаднойчы гаварыў, што яму невядомае пачуццё настальгіі, і які паводле ўласнага прызнання мяняў краіны як пальчаткі, пад канец жыцця абмовіўся пра балюшчыя расійскія струны ў старой ліры (у яго была міжрэбравая неўралгія).

Зрэшты, менавіта безрадзімец Набокаў найпраніклівей прызнаўся Айчыне:

***Воздух твой, вошедший в грудь мою,***
***Я тебе стихами отдаю.***

Часам, ідучы паўз Купалаўскі тэатр, прыгадваю, што ён за свой немалы век быў не толькі прытулкам для Мельпамены. Менавіта ў тэатры 27 чэрвеня 1944 года праходзіў 2-і Усебеларускі кангрэс — будынак і знутры і звонку быў аздоблены нацыянальнай сімволікай, ганаровую варту неслі курсанты Беларускай афіцэрскай школы. Менавіта ў сценах гэтага тэатра годам раней прагрымела партызанская міна, разлічаная на гаўляйтара. Але Кубэ ў тэатры не аказалася, загінулі ні ў чым не вінаватыя людзі, у тым ліку дзеці. Загінуў і першынец Наталлі Арсенневай Радаслаў.

Памятаю, як з сябрамі Беларускага згуртавання вайскоўцаў мы спрабавалі адшукаць на Вайсковых могілках ягоны апошні прытулак. І хоць мы ведалі дакладна, што ахвяраў народных мсціўцаў пахавалі паблізу царквы, пошукі закончыліся безвынікова. За грувасткімі помнікамі расійскім генералам ды іхнім жонкам назаўсёды згубілася яшчэ адна беларуская магілка.

А тады, у 1943-м, маці не пракляла ў вершах забойцаў сына, свой найвялікшы боль змагла прыглушыць у сэрцы:

***Так, жыццю дагадзіць немагчыма...***
***Лёс — пражэрлівы, прагны стары...***
***Ён не сцішыцца, покуль не выме***
***духу з цела без права й пары...***

***Хай жа лепш і кусае і раніць***
***сэрца***
***болю калючы асцюк, —***
***трэба, зубы заціснуўшы, глянуць***
***проста ў злосныя вочы жыццю.***

Змагла, бо не было вінаватых у той міжусобнай калатнечы, калі свае забівалі сваіх.

Аўтарку кнігі "Яшчэ адна вясна" наблізіў да чытача Анатоль Кляшчук у сваёй адмысловай прадмоўнай фотанавеле. Усцешна, што прызнаны наш майстар дабраў часу і скарыстаў магчымасць наведаць славутую беларускую паэтку.

Вось ён, невядомы, таямнічы Рочастар. Тры пакаленні Арсенневых-Кушаляў — маці, сын, сынава дачка. Унучка лашчыць сабак, бабуля лашчыць на каленях сваю Беларусь — рассыпаную па журботных і мужных, адчайных і малітоўных вершах выдадзенай у Нью-Йорку кнігі "Між берагамі".

Вось яна, Наталля Арсеннева, на амерыканскай прызбе — ва ўтульным прыхатнім шэзлонгу ў атачэнні кветак. Глянеш, і чамусьці прыходзіць у галаву думка, што паэт у сталым веку мудрэй за любога філосафа.

А вось пісаны рукой "другога сакратара Наталлі Кушаль (Арсенневай)" пратакол устаноўчага сходу Беларускага інстытута навукі і мастацтва, які дзеіць ужо некалькі дзесяткаў гадоў, робячы гэтак шмат карыснага дзеля беларусаў па ўсім свеце. Чаго вартая хоць бы славутая серыя бінімаўскіх выданняў (мастацкая літаратура, даследаванні, успаміны), куды ўвайшло ўсё лепшае, створанае беларускай эміграцыяй...

Чалавеку заўсёды хацелася ўвекавечыцца на зямлі — муміяй, помнікам ці высачэзнай пірамідай. Аднак усё зварачаецца ў прах, апрача таго, што было спачатку.

І нават калі спраўдзяцца прароцтвы незычліўцаў, і чалавецтва перастане чытаць вершы (замяніўшы іх сурагатам камп'ютэрных відзомаў з якой-небудзь трасцай упрыкуску), настане дзень, калі ў кожным беларускім храме, настройваючы людскія душы на высокі лад сумоўя з Богам, пачуюцца ўзнёслыя словы: "Магутны Божа, ўладар сусветаў..." Бо вечны Бог, і спрадвечная пад ягоным апякунствам Беларусь. І гучацьме над светам увечненае Наталляй Арсенневай яшчэ адно беларускае вячыстае Слова.

**Міхась СКОБЛА**





⬆ *З Максімам Танкам у беларускай яшчэ Вільні;*

➡ *1939-ы. Трывожны год уз'яднання...;*

⬇ *Наталля Арсеннева віншуе з сямідзесяцігоддзем прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі В. Жука-Грышкевіча. 1973 г.;*

⬇ *Наталля Арсеннева ў гасцях у канадскіх беларусаў. 1969г.;*





# Пісьменнікі — дзецям

Добрыя, трывалыя сувязі існуюць у Гомельскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў са школьнікамі вобласці. На мінулым тыдні ў Гомель прыехалі дзіцячыя пісьменнікі-земляк і з Мінска.

Цікавымі і змястоўнымі былі іх выступленні ў 10-й школе горада Жлобіна. Дзятва цёпла сустрэла сваіх гасцей, з задавальненнем слухала апавяданні і вершы Яўгена Каршукова, Міколы Чарняўскага і Васіля Ткачова. Да таго ж Мікола Чарняўскі, як супрацоўнік часопіса "Вясёлка", наладзіў імправізаваную канферэнцыю юных чытачоў свайго выдання: розным пытанням не было канца...

З нецярпеннем чакалі пісьменнікаў і ў Цярухскім дзіцячым доме. Тут нават не помняць, калі апошні раз прыязджалі госці са сталічнай пісьменніцкай арганізацыі. На гэты раз сустрэча была "дзелавой": гаворка ішла аб пастаянным шэфстве літаратараў над дзіцячым домам, які быў створаны яшчэ ў 1945 годзе для дзяцей-сірот вайны і сёння па праву лічыцца адным з лепшых у вобласці. Пісьменнікі прывезлі з сабой бібліятэчку кніг беларускіх аўтараў і падарылі яе дзецям разам са сваімі кнігамі.

Наступная паездка дзіцячых пісьменнікаў сталіцы запланавана ў Мазырскі раён.

Я. ІВАНОЎ

# Украінскі "Дзень маці"

Цікава прайшло свята Украіны "Дзень маці" ў Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур. Украінцы адзначаюць яго ў другую нядзелю мая, пачынаючы ўжо з 1929 года. Свята прайшло ў межах II Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, які распачаўся сёлета 21 красавіка і завершыцца ў маі наступнага года ў Гродне.

Яго адкрыла кампазітар, выканаўца Таццяна Моўчан сваёй песняй "Малітва" на словы В. Акалавай (Беларуская асацыяцыя ўкраінцаў "Ватра").

Больш за дваццаць нумароў канцэртнай праграмы паказалі самадзейныя спевакі, танцоры і чытальнікі — украінцы, якія жывуць на Беларусі. Цёпла прымалі слухачы фальклорны ансамбль "Магдалена" Кобрынскага раёна (кіраўнік Алена Букач, таварыства "Просвіта"). Спадабаліся і спевакі гурта "Краяны" (Маладзечанскае таварыства ўкраінцаў "Краяны"). Гарачымі апладысментамі сустракалі гледачы сталічны дзіцячы танцавальны ансамбль "Барвінак", хор саліставу мінскага таварыства "Кабзар", трыо "Чырвоныя макі" ды інш.

Пятро ГАРДЗІЕНКА

# Свята Пушкінскай паэзіі



IX Пушкінскае свята паэзіі прайшло ў Віцебску. Яго ўдзельнікі выступалі каля помніка А. С. Пушкіну, пазнаёміліся з прэм'ерай дакументальнага фільма "Евангелле ад Мамы" студыі "Летапіс" пра народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, літаратурным вечарам адзначылі 50-годдзе творчай дзейнасці паэта з Віцебска Давіда Сімановіча.

*На здымку: на Пушкінскім свяце выступае паэт Уладзімір Папковіч.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ПАЭЗІЯ

Павел ШРУБ



# З цыкла "Ганна"

## Спадарыня Ганна

*У ціхай кватэрцы*
*між цемрадзі ночы*
*жанчыне не спіцца —*
*расплюшчаны вочы...*
*Нашто ёй замужняй*
*такая навала:*
*так моцна другога*
*яна пакахала.*

*Спадарыня Ганна,*
*Спадарыня Ганна,*
*ад мужа каханне*
*хавае старанна,*
*нібы пустазелле,*
*яго вырывае —*
*яно ж усё роўна*
*ў душы прарастае.*

*Забудуцца мроі*
*у клопатах ранку:*
*накорміць сямейства,*
*праводзіць да ганку...*
*А потым на працу,*
*але й за работай*
*нязваныя думкі*
*нахлынуць употай.*

*Спадарыня Ганна,*
*Спадарыня Ганна*
*ад іншых каханне*
*хавае старанна,*
*нібы пустазелле,*
*яго вырывае —*
*яно ж усё роўна*
*ў душы прарастае.*

*Я тым не зайздрошчу,*
*хто ўжо напачатку,*
*далей што адбудзецца,*
*мае здагадку.*
*Я знаць не жадаю,*
*што мае адбыцца:*
*хай будзе жанчыне*
*яе таямніца...*

*Спадарыня Ганна,*
*Спадарыня Ганна...*

•

*Мне сустрэць бы цябе*
*гадоў дваццаць назад! —*
*І я ў гэтым адзін*
*вінават, вінават.*

*Ды пражытых гадоў*
*не вярнуць мне назад,*
*і я ў гэтым адзін*
*вінават, вінават.*

*А цяпер не для нас*
*белапеніцца сад,*
*што ж — я ў гэтым адзін*
*вінават, вінават.*

*Нам у садзе пазней*
*не збіраць вінаград —*
*буду ў гэтым адзін*
*вінават, вінават...*

*Як шкада: я табе*
*і не кум, і не сват —*
*зноў жа ў гэтым я сам*
*вінават, вінават...*

*А як кіну калі*
*ненарокам пагляд,*
*то я ў гэтым даўно*
*вінават, вінават.*

*Знаю, кажуць сяброўкі:*
*"Будзе верным наўрад..."*
*Я наперад у тым*
*вінават,вінават.*

*Калі горкае шчасце, —*
*яму нават рад...*
*Зноў я сам прад сабой*
*вінават, вінават.*

*Праляцяць, нібы птушкі*
*у выраі, гады...*
*Зразумееш ці, ў чым*
*вінаватая ты?..*

•

*Зноў злую на цябе, праклінаю...*
*Толькі што табе гэты праклён:*
*як ад'едзеш куды — я не знаю,*
*як пражыць без цябе пару дзён.*

*Прад табой я заўсёды з усмешкай*
*(ат, бяду адвяду я рукой),*
*і паўночная ведае сцежка,*
*як даецца мне гэты спакой.*

*У часіны завейных прагулак*
*я ўяўляю, як заўтра скажу*
*тыя словы, што звонка і гулка*
*веснім клічам вярэдзяць душу.*

*А назаўтра ў пакойчыку шэрым*
*распачну пра мароз, пра зіму:*
*ты ж у байкі тавары шак верыш*
*і ні слову не верыш майму...*

## Сіняя далеч

*Сіняя далеч*
*і ў полі дарога,*
*Сіняя далеч,*
*і болей нічога.*

*З марай аб светлым*
*нястрэчаным нечым*
*імкнуся з парога*
*да сіняй далечы.*

*А там у далечы*
*нехта праворны*
*блакітныя мары*
*замазвае чорным.*

*Нехта праворны*
*чорныя рэчы*
*фарбуе у бліскучы*
*колер далечы.*

*Падмену заўважыць*
*так цяжка адразу —*
*плачу за вучобу*
*я золатам часу.*

*Плачу за вучобу*
*я рэштаю веры, —*
*блакітнае неба*
*становіцца шэрым...*

*І сябра вясёлы,*
*прыязны, чуллівы*
*становіцца змрочным,*
*як камень, маўклівым...*
*Хвілінная слабасць.*
*Хай холадна — сею.*
*Хай змрочна — вырошчваю*
*кветку-надзею.*

*Хвілінная слабасць.*
*У сіняй далечы*
*выпростваю вольна*
*стамлёныя плечы.*

*У шэрае неба*
*я верыць не стану —*
*я ведаю розныя*
*фарбы падману.*

*У сінюю далеч*
*пайду нетаропка,*
*шчаслівы; як знікну —*
*там светлаю кропкай...*

ПРОЗА

ЯНЫ З'ЯВІЛІСЯ раптоўна: некалькі дзесяткаў, не менш, ён пачаў лічыць, але збіўся, бо мухі бегалі па ім бязладна і неяк бы з падскокам, у вачах у яго замільгацела, і ён перастаў лічыць. Мухі былі ізумрудна-зялёныя, таго неверагодна зялёнага колеру, які ўласцівы хіба толькі штучным стварэнням. Куртка яго была ў крыві: мухі трымцелі, адчуваючы гэта. І толькі тады ён зразумеў, што прыгожыя зялёныя насякомыя — звычайныя падлавыя мухі і яму, значыць, хутка гамон. Мужчына скасавурыўся на свае ногі, грудзі і жывот — нагам у красоўках было холадна, хаця сонца ўжо сляпіла яму вочы, і далонь, што ляжала на рукаятцы рэвальвера, таксама была халодная і мокрая ад поту. Ён сціснуў пальцы.

...Ён сціснуў кулакі, і тады, пэўна, нешта спрацавала ў яго галаве, быццам адбыўся шчаўчок і нібы пераключылася на больш высокае напружанне маз-гавое рэле, бо яму раптам стала горача, а рука аўтаматычна нырнула за пазуху, дзе ў самаробнай кабуры грэўся яго "Радом", адзін з варыянтаў бельгійскага "Нагана". Гэта быў сямізарадны рэвальвер калібру 7,62 мм з барабанам, які насоўваўся наперад — мадэль вытворчасці 1895 года. Паўгода таму малады мужчына набыў яго за пяцьсот долараў у чалавека, які прыехаў з Польшчы.

Ён ускінуў руку са зброяй, і тры стрэлы адзін за другім, без паўзы, узарвалі вагон. Першая куля трапіла ў шыю аднаго з нападаўшых — укормленага, з чорнымі пукатымі вачыма і ў чорным доўгім плашчы. На ягоны белы шалік адразу пырснула крывёю, яго адкінула назад, у праход, дзе ён упаў і захрыпеў, драпаючы пазногцямі брудную падлогу. Другая куля трапіла ў лоб таму, хто ўставаў з сядзення, і мазгі яго абпырскалі спінку гэтага сядзення і дзяўчыну насупраць, якая адразу закрычала і крычала не перастаючы, калі ён стрэліў у трэці раз, услед таму, хто нападаў на яго, трымаючыся за спінай лупатага ў белым шаліку і плашчы. Гэты трэці, у жоўтай скуранай куртцы і каўбойскіх вастраносых чаравіках, пэўна, хутка кумекаў, бо крутнуўся, спрабуючы ўцячы. Ён быў гонкі і спрытны, але ж куля была яшчэ больш спрытная, яна ўвайшла яму якраз між лапатак, і — усё было скончана.

Цягнік імчаў у прыцемках далей, вагон быў пусты, толькі ён і гэтыя трое ды шлюха, якая набрала ў грудзі паветра і закрычала яшчэ больш гучна.

Малады мужчына саўгануў наган за пазуху, падхапіў з сядзення сумку з газетамі і перакінуў цераз плячо. Ён быў светлавалосы, высокага росту, лічы, зусім хлопец. Толькі на твары ад носа да куткоў вуснаў рэзка выдзяляліся дзве зморшчыны, якія рабілі яго старэйшым. Пластмасавая бейсбольная кепка з мацерчатым брылём была нізка насунута на лоб. Мужчына памкнуўся да дзвярэй, але раптам павярнуўся і крыкнуў:

— Маўчы, сучка!

Дзяўчына адхіснулася ад яго да вакна і раптам змоўкла. Яна была скуластая, з кірпатым носам і пафарбаванай пад брунетку, з ярка-чырвоным ад памады ротам. Мужчына мімаволі адзначыў усё, хаця навошта гэта было яму, — крутануўся і кінуўся да выхаду — цягнік ужо замаруджваў хаду на чарговым прыпынку.

Ён выскачыў адразу ж, як дзверы расчыніліся, і пабег праз асветленую ліхтаром пляцоўку за будынак станцыі, у ноч — гэта быў адзін з бязлюдных прыпынкаў ля невялікага пасёлка, ці нават вёскі. Прыглушаныя крыкі за яго спіной пачаліся зноў, але электрацягнік крануўся, набраў хуткасць і рушыў. Што ж, пакуль яны там паведамяць машыністам, а тыя па рацыі на бліжэйшую станцыю, а там падключыцца міліцыя, у яго будзе хвілін трыццаць-сорак, а мо, калі пашанцуе, і болей, каб адарвацца ад пагоні. А пошук пачнецца, магчыма, у гэтую ж ноч, хіба не так? Урэшце, ён не сумняваўся.

Прабягаючы ўздоўж пракапанай канавы (непадалёку груваслілася і цёмная гара экскаватара), ён кінуў туды сумку з газетамі, крыху аддыхаўся і нагамі закідаў яе жвірам. Хаця, мільганула ў яго галаве, усё гэта дарэмна, бо тая дзяўчына, пэўна, ужо расказвае пра ўсё, і пра газеты таксама, а прыстрэліў бы і яе, дык усё было б інакш, можа б, і ўратаваўся, але ж вось сумленне, ці што там яшчэ, нейкая сіла ў ім не дазволіла лішняй крыві. Хаця — што яму да той дзяўчыны? Чаго вартае яе нікчэмнае жыццё, і каму ўвогуле патрэбна гэткае смецце? Хіба што тым цыганам, каб прадаваць ёй наркату і карыстацца яе целам, пакуль яно здаровае?

Юры СТАНКЕВІЧ

# ІЗУМРУДНА-ЗЯЛЁНЫЯ МУХІ



АПАВЯДАННЕ

Пазбавіўшыся ад сумкі, ён зноў пабег у цемру.

...Урэшце, усё з таго і пачалося, што ў іх с...м райцэнтры, звычайным правінцыйным гарадку, было мала дзевак. Іх проста не хапала на ўсіх, бо побач было два, ды не, нават тры гарадкі-спадарожнікі з вайскоўцамі — там дыслацыравалася цэлая армія. Штогод, штомесяц, штодня мангалоідныя лейтэнанты і капітаны бралі з гарадка даніну — дзевак у жонкі, звозілі іх за свет, ці заставаліся з імі ў сваіх гарадках-спадарожніках, каб пладзіць такіх жа мангалоідаў і будучых вайскоўцаў, як і самі.

А то яшчэ дзевак з мясцовага педвучылішча — адзінай у іх горадзе навучальнай установы — размяркоўвалі пасля вучобы... у аддаленыя кішлакі азіяцкіх рэспублік. Нашыя мудрыя кіраўнікі ў сталіцы так вырашалі, гладкія і салодкамоўныя ёлупні — уся гэта шушамець, якая ў чарговы раз аб...сь са сваёй гісторыяй і сваімі перамогамі. Увогуле, гэта быў горад недачалавекаў. Такое можа быць, бо ён пабачыў за сваё жыццё шмат гарадоў — вялікіх і малых, калі служыў у чыгуначных войсках. Суцэльная гніль. А калі вакол цябе завялася гніль і яе не выпаліш у свой час з дапамогай агнямёта, напалму, траціла ці яшчэ якім чынам, то яна размножыцца і ўсё стане гніллю. Дарогі пакрыюцца напоўненымі смярдзючай тванню ямамі, рэкі і азёры запаскудзяць мазутам, крышкі люкаў каналізацыі знікнуць, і ў іх правалы пачнуць скідваць смецце, пад'езды і лесвіцы ў дамах запаскудзяць п'яныя пралетары, а дахадзягі-старцы з устаўнымі сківіцамі пачнуць заклікаць да ўсялякіх узбуйненняў, быццам мала сваёй гнілі, дык каб прыйшла яшчэ і ўсялякая набрыдзь. Усе пачнуць слухаць розных ёлупняў, запабягаць перад імі, надзяляць пасадамі і кватэрамі. І калі гэта і хто тут вынішчаў тых ёлупняў, нават памкнуўся іх утаймаваць? Наадварот, яны нішчылі і нішчаць тых, хто з імі не згодны. Калі ж хто і браўся за дурноту, каб змагацца з ёй ейнай жа зброяй, то адразу усчынаўся сусветны гвалт. Вось дзе першапрычына, хаця дзевак было мала, нічога не запярэчыш і — гэта дакладна. І потым, калі ў яго з'явілася нявеста, а ён толькі адслужыў іх с...ю армію, то не тое што на якую-небудзь аднапакаёўку, а і на вяселле грошай у яго не было. З таго ўсё і пачалося, ён жа не быў сынком якога функцыянера, аднаго з тых, хто на іх с...я святы заўсёды стаяў на збітай мясцовымі цеслярамі трыбуне пад іх любімым правадыром і зекрыў вочы на шэсце тых, з транспарантамі, сцягамі, надзьмутымі шарыкамі-прэзерватывамі ў руках і п'янымі пысамі. Пэўна, і ён павінен быў штогод ісці пад тымі транспарантамі і сцягамі ў святы, пляскаць у далоні, працаваць на тых ёлупняў у будні і чакаць усё жыццё, пакуль яму, старому і нядошламу ад хвароб, выдзеляць урэшце якую с...ю кватэру, але нашто яму тое, у чым ужо не будзе патрэбы? Хіба тыя, у чырвоных мантыях на трыбунах, ці іх дзеці мелі ў тым патрэбу? Ім даставалася ўсё дарма, а яму нават на гэта варта было змарнаваць паўтара года катаржных работ. Хто прыгаварыў яго да тых работ? Пяць тысяч долараў — вось была цана яго лаяльнасці, законапаслухмянасці і шчасця. Усяго толькі пяць тысяч. А ў тых цыганоў, па якіх ён адкрыў страляніну, былі кватэры? Ці цыганы ўсё яшчэ жывуць у сваіх шатрах дзе-небудзь на ўзлессі? Адкажы мне, лес? Цяжка дыхаючы, ён прадзіраўся праз начны гушчар.

...Лес шумеў у яго над галавой. Ён аблізаў вусны сухім языком і зірнуў на мух. Яны поўзалі ўжо і па твары, яны былі нахабна-смелыя і мэтаскіраваныя, як усе насякомыя. Лес. Адкуль яны ў лесе, паблізу ж няма, здаецца, ні падлы, ні звалкі. Адкуль яны з'явіліся так хутка, нібы іх навялі якім лакатарам? Лес жа такі чысты, жывы і вечны. Пошум лесу — самае цудоўнае, што ёсць на свеце. Хто гэта сказаў? Нейкі пісьменнік. Але ці ведаў пісьменнік, што ў лесе хаваюцца мірыяды такіх вось ізумрудна-зялёных мух і чакаюць свайго часу? Так, ён тады шмат чытаў і нават рыхтаваўся паступаць у інстытут замежных моў. Урэшце, куды заўгодна, толькі б вырвацца з таго гарадка, але тут з'явілася дзяўчына.

...Дзяўчына гнутка і зграбна падабрала пад сябе ногі, а потым лёгкім рухам паднялася з посцілкі, на якой яны ляжалі, і пайшла да ракі. Яна паволі ўваходзіла ў ваду, і ён назіраў, як рака ўбірае ў сябе спачатку яе доўгія ногі, потым голыя акруглыя клубы, спіну і спыняецца на ўзроўні шыі. Тады дзяўчына павярнулася і паклікала:

— Ідзі да мяне. Дно чыстае, пясок. Цёпла. І камары не ўкусяць.

Ён падняўся з зямлі і пайшоў да яе, і вада прыняла і яго, мякка заказытала цела прахалодай, і дзяўчына сказала:

— Хутка мы не зможам сустракацца. Прыйдзе восень, а потым зіма. Я жыву з бацькам, з сястрой і братам, а ў цябе таксама нельга. Чаму ты такі бедны? Навошта я кахаю менавіта цябе?

Ён падумаў, ён думаў пра гэта і раней, і праз паўзу адказаў:

— Калі ты пачакаеш з год, то я зараблю, колькі трэба. Усяго толькі год. Больш я нічога не магу і нічога не прашу.

Дзяўчына замест адказу заплюшчыла вочы і пацягнулася вуснамі да яго, каб ён пацалаваў. Валасы яе, колеру саломы, былі мокрыя. Яна абняла яго пад вадой і ашчаперыла нагамі.

— Які ты худы, — сказала дзяўчына. — Зусім хлопчык. І чаму менавіта ты? Магла ж я выбраць каго іншага і не сустракацца з ім вось так, як з табой: за горадам, у полі, у лесе, ля ракі, у пад'ездах?

Замест адказу ён з прыхаванай злосцю прыпаў да яе вуснаў у доўгім пацалунку. Пацалунак гэты станавіўся ўсё больш пажадлівым, і тады дзяўчына адарвалася ад яго і сказала:

— Занясі мяне цяпер назад. Ну, хутчэй...

Яна, вядома, згадзілася. Магчыма, такія абяцанні ў жанчын увогуле нічога не вартыя, але ён успрымаў усё сур'ёзна, два гады ўстрымання ў іх с...й арміі зрабілі яго такім, сентыментальным і ўлюблівым. Урэшце, ён увогуле быў такім. Тут якраз ішла ўжо поўным ходам іх с...я перабудова, і можна было зарабляць грошы, як здолееш.

Так, хто як здолее. Але ж не мог ён гарбаціць на якім з іх с...х заводаў, бо там цяпер і на хлеб часам не заробіш. Не мог і "шалясцець" валютай ці гандляваць пракладкамі, бо гэта — не для яго. Ён доўга прыкідваў тады так і гэтак і, як ні круці, атрымлівалася яму ўсё роўна далёкая дарога. Так ён і завербаваўся ў адну прыватную будаўнічую фірму ў іхнюю дарагую і залатую сталіцу, як пелася раней у адной з іх с...х песень. Вось тут і пачаліся катаржныя работы, бо ён наняўся працаваць мулярам. Па дзесяць-дванаццаць гадзін у дзень, з раніцы дацямна, і ўсяго, як было сказана ў дамове, за пяцьсот "зялёных", больш яны не абяцалі, дый і так на яго месца было зашмат жадаючых з вёсак, пасёлкаў, ды такіх с...х гарадкоў, як той, дзе ён нарадзіўся: толькі выйдзі на пло-шчу і свісні — адразу набягуць. У яго ўсё было разлічана: не піць, не курыць, нават не праядаць лішняга. Чатырыста пяцьдзесят кожны месяц ён павінен быў адкладаць. Але тут тыя сукі пачалі круціць і махляваць — што-што, а на гэта яны былі майстры ў іх с...й сталіцы. Замест абяцаных пяцісот выходзіла па чатырыста, а то і менш. Жыў ён у інтэрнаце, спаў у пракураным пакойчыку, дзе ложкі стаялі ў два ярусы, як калісьці ў казарме. Але горшае было не гэта і не рабская праца. Там нельга было давяраць нікому і ніколі, нават ноччу, калі спіш, нават у сне. Чыста выпадкова ён падслухаў размову каменданта інтэрната з адным памагатым-шасцёркай. Грошы адтуль не давалі вывозіць нікому. Калі не маглі скрасці па п'янцы, то рабавалі пасля палучкі; калі не ўдавалася абшукаць рэчы і сумкі ў час іх адсутнасці, калі яны гарбацілі на будоўлі, то падсылалі шлюх з клафелінам. Яму давялося прыдумаць версію пра брата, які, маўляў, жыве тут недалёка і да якога ён і адносіць на захоўванне грошы, і так ад яго на нейкі час адчапіліся, хаця ён ведаў, што пасля апошняга разліку, хутчэй за ўсё, будуць чакаць яго ў інтэрнаце, і тады ў ход пойдзе ўсё: гарэлка, шлюхі, а потым, калі не спрацуе, і сіла. Грошы ён зашываў у цяльняшку, якую амаль не здымаў — вакол пояса і па баках, дзе прыстасаваў знутры спецыяльныя кішэні. З палучкі мяняў іх рублі на валюту і хаваў. І ўсё роўна ўвесь час трэба было сцерагчыся нечаканага нападу ці яшчэ якой падлянкі. Па хітрасці, зласлівасці і каварству яны былі горш за пацукоў: у іх там склалася нешта накшталт групоўкі, хеўра, якая тлусцела на рабочай скаціне, накшталт яго і падобных, і з механічнай абыякавасцю выплёўвала іх голымі і босымі назад, у іх пасёлкі і вёскі. І тым не менш, яму ўдалося перахітрыць тых пацукоў з іхнімі "шчамiламі", "рэксамі" і шлюхамі са снатворным. Яшчэ раней, за некалькі дзён да апошняй палучкі, ён набыў білет і пасля канчатковага разліку ў інтэрнат не вярнуўся, пакінуўшы там ім на ўспамін тое-сёе з вопраткі, электрабрытву, ручнік, зубную шчотку і чамадан. А, пэўна, яны доўга чакалі яго тым днём і той ноччу, анягож, і шлюху туды даставілі, усё як належыць, пакуль ён, як і быў, у рабочай робе і кедах, не занырнуў у вагон. Цягнік урэшце крануўся, ён заваліўся на верхнюю паліцу (надыходзіла ўжо ноч) і назіраў, як сплывае і меншае гэты жудасны мегаполіс, што адабраў у яго больш года жыцця, як агнёў горада ўсё меншае і меншае, і ўрэшце пачаліся дробныя пасёлкі, раўніны, а потым лес, і тады ён заснуў.

...Лес, па якім ён плёўся ў напрамку ад чыгункі, на яго думку, не мог цягнуцца на вялікую адлегласць. Ён прыкінуў прыблізна — кіламетраў дзесяць, пятнаццаць. Урэшце, тут не тайга, надта не схаваешся. Дый што толку хавацца, калі няма ні жытла, ні ежы, ні грошай, акрамя якой дробязі, толькі "Радом" пад пахай з чатырма патронамі ў барабане. Патроны ж есці не будзеш. Ён прыслухаўся да начных гукаў і вызначыў па іх, дзе чыгунка. Там у іх ужо, напэўна, усё спрацавала і міліцыянты з "калашнікавымі" пайшлі па следзе. А можа, і не — хіба даведаешся? Не азірайся, бо ззаду магчымая пагоня — хто гэта сказаў? Хутчэй за ўсё, яны з сабой захопяць і сабаку. А калі ў цемнаце ён дрэнна прыхаваў сумку, то сабаку падсунуць яе пад нос і тая лёгка возьме след. А пасля гэтага ўжо справа часу, каб дастаць яго. Ён будзе страляць? Скажы, лес, мне страляць? Трэба выбрацца на якую лясную дарогу, няхай цемра, ноч, але трэба — дарога ўрэшце прывядзе да якога балотца, ручая, ці канавы і ён саб'е са следу сабаку. Не шукай мяне, сабака, бо я ні ў чым перад табой не вінаваты, падумаў ён. Хіба мне трэба ўвогуле тваё сабачае ці яшчэ якое іншае жыццё? Тым больш — чалавечае? Але ён адабраў ужо не адно. Тыя цыганы — чалавекі? Скажы мне, лес?

...Лес ціха шумеў над ім. Ён ляжаў на невялікай палянцы, галавой на спарахнелым сасновым ствале, рэдкія сонечныя промні прабіваліся да яго, станавілася горача. "Віць-віць-віць", — звінела ўгары птушка.. Піць. У грудзях, правым баку і ў жываце тлела маленькае вогнішча, якое патрабавала вады-.Ён хацеў піць. Пэўна, падумаў ён, зачапіла жыццёва важныя органы. Недарэмна на ім ужо некалькі гадзін кішаць гэтыя зялёныя стварэнні. А ўжо яны ніколі не памыляюцца, бо іх інстынкты адпрацаваны тысячагоддзямі, сотнямі тысячагоддзяў. Ён паварушыў галавой, каб сагнаць іх з твару, і адразу боль увярваўся ў яго, як урываецца на маленькую сонную станцыю ранішні аранжава-сіні экспрэс, каб, не спыняючыся, паімчаць далей. Далей — куды? Куды і я неўзабаве паімчу — ты ведаеш, птушка? Не крычы так, птушка, зрабі ласку, бо я хачу піць і хачу цішыні.

...Ля маленькай соннай станцыі ўсё і здарылася. Ён тады ўжо змяніў хуткі цягнік на звычайную электрычку, якая везла яго дадому, у той с...ны гарадок, дзе ён нарадзіўся. Ён паспеў купіць сабе спартыўны касцюм, красоўкі, куртку ды пару сумак, якія запоўніў такімі-сякімі падарункамі.

Мужчына быў амаль што дома, ціхая радасць пасялілася ў ім, ён расслабіўся, а гэтага рабіць цяпер ніколі нявbooarta. Грошы, якія выпараў з цельніка, ён паклаў на дно сумкі, частку, некалькі соцень, пакінуў у кішэні курткі, а брудны цельнік выкінуў. Ён ехаў дамоў у звычайнай прыгараднай электрычцы, і ў душы ў яго панавалі ціхае замілаванне і спакой.

Электрычка была адна з апошніх, вагон паступова апусцеў, за вакном панавала амаль што ноч, і толькі рэдкія агні напльвалі і зноў адыходзілі ў цемру: то заставаліся ззаду ўсе тыя бяздарна і безгустоўна пабудаваныя хаты і домікі, дзе жылі рахманыя, пакорлівыя і безадказныя дурні — такія ж, як і ў тым гарадку, дзе жыў і куды ехаў ён.

Таму ён і не надаў спачатку аніякай увагі тым траім, што зайшлі ў вагон на адным з прыпынкаў і, пэўна, збіраліся хутка выходзіць. Зайшлі неяк моўчкі, ціха, быццам заслізгнулі. У слабым святле, а працавала толькі частка асвятляльных плафонаў, ён глядзеў, як яны ішлі па праходзе між сядзенняў, адзін за адным — усе ў танных спартыўных касцюмах і з насунутымі на вочы брылямі плоскіх расійскіх кепак, і пачуццё неўсвядомленай небяспекі ахапіла яго.

У іх, пэўна, усё было разлічана, бо спачатку яны агледзеліся, агледзелі яго і, слізгануўшы вачыма па сумках, селі збоку і насупраць. Так, моўчкі, яны ехалі нейкі час, і мужчына пачаў супакойвацца. Цягнік замаруджваў хаду перад чарговай станцыяй, і тут адзін з іх — скуласты, цёмнатвары, з праціснутым пасярэдзіне, нібы ў хворага на пранцы, носам, пасунуўся да яго і, быццам абыякава, спытаў:

— Здалёк едзеш?

І мужчына, падсвядома ўжо разумеючы, што трапіў у пастку, інтуітыўна прыхіліў бліжэй да сябе сумкі і адказаў:

— З Парыжа, мужычкі.

Гэта азначала, каб той не задаваў недарэчных пытанняў, і ў той жа час гаварыла незнаёмцам, што ён чалавек самастойны, не баязлівец і ведае правілы абыходжання. Але яны заспяшаліся, быццам прарвала гаць, і вадаспад пачаў змываць усё на сваім шляху.

— Ну, а нам якраз туды. Вось сумачкі твае там і спатрэбяцца. Дык ты б іх аддаў.

Гэта сказаў другі — у яго ўся левая рука з тыльнага боку была сіняя ад татуіроўкі. Ён выхапіў з кішэні нож. Утраіх яны накінуліся на яго. Адзін схапіў яго за рукі, другі падсунуў нож да шыі, а трэці пацягнуў да сябе сумкі. Мужчына супраціўляўся як мог, мёртва зашчаміўшы ручкі сумак, і тады адчуў удар па галаве, у вачах ярка бліснула святло, а потым ноч уварвалася ў яго і захапіла з сабой.

Ён хутка апрытомнеў. Цягнік, пастукваючы коламі, ішоў далей, кроў сцякала яму па твары на брудную падлогу, на якой ён ляжаў, — на ёй утварылася лужына. Але самае горшае было тое, што сумак, якія так утульна падпіралі яго бок, больш не было.

...Дадому ён не вярнуўся. Навошта? Вярнуцца, каб расказваць тым дурням, што яго абрабавалі, як апошняга лоха? Ці, можа, паплакацца дзяўчыне? І той дзяўчыны ён больш не бачыў. Хто ведае, дзе яна цяпер ў гэты час, ноччу, калі ён бяжыць праз лес? Пэўна, яна даўно замужам і спіць зараз у ложку з мужчынам ці займаецца любоўю. Можа, яе звезлі за свет, а можа, з'ехала сама, а можа, проста стала шлюхай...

*(Працяг на стар. 14—15 )*

## І гармонік грае? Грае!




**Іх мала, ды ўсё ж яны ёсць — аўдыёкасеты з каларытнымі "Палескімі найгрышамі", "Малацілачкай", "Блытанкай", "Весялухай", "Брагінскімі вячоркамі", "Танцамі Чачэршчыны", "Цыганачкай-сербіяначкай", "Бульбачкай" ды "Рассыпухай". Па заказе Міністэрства культуры Беларусі вядомая сталічная фірма "Каўчэг" выпусціла ў свет каштоўную тысячу такіх музычных альбомаў. Тут сабраны запісаныя на стужку выступленні (зразумела, далёка не ўсе) удзельнікаў Першага рэспубліканскага фестывалю "Іграй, гармонік", які прайшоў пры канцы кастрычніка 1996 года ў Мінску.**

**Абразок маляўнічага народнага свята ствараюць ансамблі "Вясёлыя музыкі" з Веткі, "Фэст" з Баранавічаў, "Пацешкі" з Маладзечна, "Чабарок" з Іўя, "Мінскія музыкі" ды сталічныя "Дударыкі", салісты Міхась Папруга (Беразіно), Мар'ян Скрамблевіч (Гародня), Емяльян Бабкоў (в. Хальч, што на Веткаўшчыне), Міхась Рубанік (Мсціслаў), Іосіф Сушко (Маладзечна), Іван Чарняк (Іўе), Анатоль Новікаў (Жодзіна), мінчукі Васіль Забуга, Фёдар Свірыдовіч, Міхась Сіняк, іншыя даравітыя беларускія музыкі. Пераважаюць, вядома, інструментальныя найгрышы, але ёсць і спевы.**

**Ды якой бы вялікаю ні была радасць з нагоды выпуску гэтай касеты, яе зноў азмрочыць пытанне: а ці з'явіцца ў нас калі-небудзь дзяржаўнае прадпрыемства па выпуску аўдыёпрадукцыі? Каб тое ж Міністэрства культуры не шукала "добрага дзядзьку" для выканання заказу, а магло б з дапамогаю ўласных адпаведных установаў рабіць і распаўсюджваць запісы беларускіх музыкантаў — прафесійных, самадзейных — аператыўна і ў належным аб'ёме, а калі трэба — і ў дадатковым тыражы...**

**С. Б.**

## "Браслаўскія зарніцы - 97"



**У трыццаты раз у жывапісным кутку Лесьнічоўка ў Браславе прайшло традыцыйнае свята народнай творчасці. Каля пяці тысяч гараджан і жыхароў раёна змаглі пазнаёміцца з творчасцю народных умельцаў, паглядзець тэатралізаванае прадстаўленне, выступленне танцораў, паслухаць народныя песні.**

*На здымку: Аня Зінкевіч і Алена Мацур займаюцца ў гуртку гліняных вырабаў Браслаўскага Дома рамёстваў.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Мо гэта — прытулак для нацыі?

### ПРА ПАДЗЕЮ Ў ПАСТАВАХ З НАЧАЛЬНІКАМ УПРАЎЛЕННЯ ЎСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ І НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ ТАДЭВУШАМ СТРУЖЭЦКІМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІМА"

**— ТРАДЫЦЫЙНЫ фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" прайшоў сёлета ўжо дзесяты раз і другі раз — як міжнародны. Гэтае свята ў Паставах успрымаецца як узор спалучэння творчай фантазіі ды арганізацыйнай дакладнасці. Самыя розныя людзі прыгадваюць яго з захапленнем. А што, Тадэвуш Іванавіч, скажаце вы — актыўны чыннік аргкамітэта, чалавек, праз чые рукі "прайшлі" ўсе дзесяць фестываляў?**

— Сёлетні фестываль атрымаўся самым цікавым у творчых адносінах. Відавочна, шматгадовая практыка дапамагла і нам, арганізатарам, і гаспадарам раёна многаму навучыцца, назапасіць вопыт, а ў выніку ўдалося зрабіць юбілейнае свята такім, якім яго і задумалі. Калі што і не цалкам спраўдзілася, дык пра тое ведалі толькі мы, а госці свята, удзельнікі ды гледачы нават не здагадваліся.

Высокі творчы ўзровень абумовіла тое, што сёлета ў Паставах прадстаўлялі сваё мастацтва лепшыя фальклорныя калектывы Беларусі, колішнія лаўрэаты фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік". Сярод іх — "Крупіцкія музыкі", гарадзенскія "Музыкі", "Лявоны" з Воранава, "Выцінанка" са Століна, гурт вандроўных музыкаў "Фэст" з Баранавічаў, "Скарыначка" з Гомеля, мінская "Шчодрыца", "Магілёўцы".... Былі 23 калектывы. Ды яшчэ індывідуальныя выканаўцы, прыпевачнікі, гарманісты.

**— Калі збіраюцца майстры — гэта ўжо само па сабе бывае цікава. Калі ж іх атуляе дасціпная, стракатая і па-сапраўднаму творчая атмасфера — гэта зарука мастацкіх адкрыццяў і шчырага святочнага настрою. Атмасфера пастаўскіх фэстаў, здаецца, спрыяе раскрыццю лепшага ў чалавеку...**

— Людзі творчыя заўсёды рады адно аднаму, рады магчымасці і падтрымаць сяброўскія стасункі, і паспаборнічаць на сцэне. Прыемна бачыць знаёмыя твары артыстаў з народа, якіх некалі адкрыў наш фестываль. Але не менш прыемна рабіць і новыя адкрыцці. Сёлета журы пад старшынствам Міхала Казінца адзначыла, напрыклад, пастаўскі дэбют найцікавага ансамбля цымбалістаў Крупіцкага цэнтра культуры Мінскага раёна. Ці вось "Талака": гэты вакальна-харэаграфічны ансамбль, створаны нядаўна на базе Віцебскай абласной філармоніі, паказаў цікавую харэаграфію, вельмі добры вакал, што дазваляе гаварыць пра яго адметную творчую перспектыву.

Свежую фарбу ў малюнак народнага свята ўнёс, таксама дэбютант, але ўжо "з імем", ансамбль старадаўняй музыкі "Контрданс" з Баранавічаў. Ягонае выступленне ў пастаўскім касцёле было сапраўдным упрыгажэннем праграмы.

Дарэчы, канцэрт старадаўняй беларускай і класічнай музыкі ў касцёле ладзіўся ўпершыню. Мы добра паразумеліся з ксяндзом, быў нават перанесены час імшы. Людзі не разыходзіліся пасля набажэнства і з захапленнем віталі выступленні музыкаў: ансамбля "Контрданс", крупіцкіх цымбалістаў, арганісткі Полацкага Сафійскага сабора Ксеніі Пагарэлай... Цудоўная музыка, дзівосныя тэмбры, выдатная акустыка, шматлікія слухачы — уражанне незабыўнае!

З новага на фестывалі трэба таксама адзначыць начны канцэрт гасцей "Баль пад зоркамі"...

**— Калі ласка, крыху пра замежных гасцей.**

— Польшчу прадстаўляла Капэла Людова Бяла-Падляскага гарадскога дома культуры, ужо вядомая ў Паставах. Фальклорны ансамбль "Русь" завітаў да нас з горада Мыцішчы Маскоўскай вобласці — вельмі цікавы калектыў, рэпертуар якога грунтуецца на матэрыялах фальклорных экспедыцый у розныя вобласці Расіі. Ансамбль народнай музыкі і танца з малдаўскага сяла Джурджулешты ды самабытныя музыкі з украінскага сяла Княждвор (Івана-Франкоўская вобласць) выклікалі захапленне ў гледачоў. А яшчэ быў адметны калектыў з літоўскага горада Эржвілкаса — "Бандонія". Упершыню мы пабачылі-пачулі нацыянальныя гармонікі, якія называюцца бандонамі. Цікавае аўтэнтычнае мастацтва!

Удзельнічала ў фестывалі, як і летась, віртуозная венгерская цымбалістка Вікторыя Херэнчар, прэзідэнт Сусветнай асацыяцыі цымбалістаў.

Ведаеце, мяне парадавала публіка. Была трывога наконт таго, што мы, можа, "перакармілі" ўжо жыхароў Пастаўшчыны і нам будзе сёлета цяжка сабраць людзей. Тым болей, што фестывальны расклад быў як ніколі раней шчыльны, імпрэзаў ладзілася багата. І ўрачыстае адкрыццё на плошчы. І канцэрт Акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча. (Ён невыпадкова апынуўся ў Паставах, бо найцікавая праграма, падрыхтаваная да 90-годдзя заснавальніка калектыву, лагічна стасавалася з ідэяй музычнага фэсту — як узор прафесійнага падыходу да развіцця традыцый народнай спадчыны). І "Пастаўскі баль" з паўночнай кульмінацыяй — "Агнямі спадчыны" паводле вынаходніцтваў славутага беларускага фееверкмайстра XVII стагоддзя Казіміра Семяновіча. І конкурс "Хто каго?". І выступленні на вясковых пляцоўках ды гарадскіх кірмашах. І гала-канцэрт у амфітэатры...




*Апафеоз фестывалю ў "зялёным" амфітэатры.*

Дык вось, прысутнасць тысяч гледачоў спрыяла стварэнню святочнай атмасферы і пераконвала ў тым, што робіцца жывая, патрэбная людзям справа.

**— Тадэвуш Іванавіч, я ведаю, які папулярны ў пастаўскіх жыхароў, дый у саміх удзельнікаў, конкурс выканаўцаў "Хто каго?". Але я ведаю, што журы, адбіўшы далоні ды насмяяўшыся да слёз разам з публікай, зазвычай усё ж наракае на неразборлівы, а то і проста нізкі густ сяго-таго з прыпевачнікаў...**

— Напэўна, штогадовыя заўвагі ды рэкамендацыі журы (а яно стабільнае па сваім складзе і таму цалкам кампетэнтнае, спрактыкаванае, дасведчанае ў зусім канкрэтных рэчах) паўплывалі на ўзровень адказнасці мясцовых органаў культуры, якія сёлета стражэй адбіралі "дэлегатаў" на пастаўскі фэст. Конкурс "Хто каго?" прайшоў, як заўжды, у перапоўненай зале, якую за тры гадзіны гэтага беспярапыннага музычнага дзеяння ніхто не пакінуў. І на сцэне былі лепшыя, больш-менш роўныя па сваіх творчых, артыстычных якасцях самадзейныя артысты з усіх куткоў краіны. Журы вылучыла як лепшых гарманістаў Пятра Астапчу-



*Старшыню Пастаўскага райвыканкама Васіля ЧЭПІКА "прынялі" ў свой гурт госці з Расіі.*

## Няскончаныя пракосы

**Кастусю Шавелю цяпер споўнілася б 85 гадоў, а не стала яго ў 1987 годзе. Жыў ціха і непрыкметна, а жыццёвых нягод хапіла, што, безумоўна, не магло не паўплываць і на творчае станаўленне.**

**Упершыню К. Шавель надрукаваўся яшчэ ў 1927 годзе ў часопісе "Беларускі піянер". У 1938-ым скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Пасля вайны жыў на роднай Уздзеншчыне, працаваў бухгалтарам у калгасе.**

**А вось першую кнігу "Мой кут салаўіны" змог выдаць толькі ў 1967 годзе. Рэкамендаваў мала вядомага новаму пакаленню чытачоў аўтара, напісаўшы да зборніка прадмову, Рыгор Бярозкін, які, як вядома, ведаў цану сапраўднаму паэтычнаму слову. Пасля ў К. Шавеля з'явіліся і іншыя кнігі — "Музыка нівы" (1977), "Пахне бяроста" (1978), "Цалуйце хлеб" (1981) і апошняя "Асеннія пракосы", пазначаная 1983 годам.**

## Амаль усе вершы

**Максіма Танка, напісаныя ім для дзяцей да верасня 1939 года, упершыню былі змешчаны на старонках дзіцячага ілюстраванага часопіса "Снапок", які з мая 1937 па 1939 год выдаваўся ў Варшаве на беларускай мове вядомым культурна-асветным дзеячам і педагогам Сяргеем Паўловічам. Сам Сяргей Канстанцінавіч, ставячы мэтай асветніцкую скіраванасць свайго дзецішча, выступаў у "Снапку" з артыкуламі, у якіх знаёміў юных чытачоў з дзейнасцю Кірылы і Мяфодзія, Ефрасінні Полацкай, расказваў пра архітэктурныя помнікі Беларусі. Актыўна супрацоўнічаў са "Снапком" і Р. Шырма. Гэта дзякуючы яму, хлопчыкі і дзяўчынкі даведаліся пра нацыянальныя каляндарна-земляробчыя святы, пазнаёміліся з народнымі звычаямі, песнямі. У часопісе друкаваліся творы М. Машары, М. Васілька, Н. Тарас, А. Дубровіча і іншых аўтараў, а таксама песні, прыказкі, іншыя жанры фальклору. Знайшлося на старонках "Снапка" і месца вершам, урыўкам з паэм Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Буйло, што выкарыстоўваліся як перадрукі. А яшчэ перакладаліся на беларускую мову творы М. Лермантава, Ф. Цютчава, І. Нікіціна...**

## Пакінуў добрую памяць

**у сэрцах дзесяткаў тысяч рускамоўных чытачоў беларускай літаратуры Арсен Астроўскі (1897—1989). Арсен Георгіевіч быў родам з Шаўляў, але блізкім стаў яму горад на Няве, дзе з 1932 па 1951 год А. Астроўскі працаваў у ленінградскім аддзяленні выдавецтва "Советский писатель" рэдактарам-арганізатарам знакамітай серыі "Библиотека поэта".**

**Дзякуючы А. Астроўскаму на рускай мове былі выдадзены аповесці Я. Брыля "У Забалоцці днее" (1951), "На Быстранцы" (1956), "Сірочы хлеб" (1957), "У сям'і" (1958), раман "Птушкі і гнёзды" (1964).**

**Арсен Георгіевіч пераклаў раманы І. Шамякіна "У добры час" (1953), "Крыніцы" (1959), "Сэрца на далоні" (1964), "Снежныя зімы" (1970), "Атланты і карыятыды" (1974), а разам з П. Кабзарэўскім пераўвасобіў цыкл шамякінскіх аповесцяў "Трывожнае шчасце".**

**Пераклаў А. Астроўскі і некаторыя творы П. Труса, П. Броўкі, Ц. Гартнага, У. Паўлава, Я. Радкевіча і іншых.**

## Вучацца майстэрству



**Часта ў дом жыхаркі мястэчка Пагост Салігорскага раёна Ніны Ягораўны Бясяцкай прыходзяць яе юныя сябры Іра Паддубіцкая і Іра Бараноўская (на здымку). Дзяўчаткі вучацца ў бабулі Ніны мастацтву вышыўкі гладдзю. У Ніны Ягораўны ў доме мноства абрусоў, падушак, ручнікоў, сурвэтак, якія майстрыха вышывала на працягу жыцця.**

*Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ, БЕЛТА*

Фестывалі!

# Мядоцкая мода

Правядзеннем 31 мая — 1 чэрвеня 1997 года фестывалю "Мядоцкі край і яго таленты" ў в. Мётча Барысаўскага раёна Мінскай вобласці была "заканадаўча" засведчана і прызнана грамадскасцю мода на народную музыку, танец, дзіцячы касцюм, вытрыманы ў канонах беларускай народнай эстэтыкі.

Мода гэтая ўзнікла тут не стыхійна і не была занесена знекуль. Узгадавана яна сумеснай працай вялікага аматара, навукоўца, даследчыка харэаграфічнага мастацтва беларусаў Мікалая Козенкі і педагагічнага калектыву Мётчанскай сярэдняй школы (дырэктар — Уладзімір Лайкоў) пры арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы многіх устаноў Барысаўскага раёна і Мінскай вобласці.

Мётчанская школа адметная тым, што, нягледзячы на ўсе эканамічныя і палітычныя перыпетыі, захавала дух педагагічнай інтэлігентнасці, закладзены ў яе падмурак пры яе адкрыцці яшчэ ў 1884 годзе. Педагагічны калектыў і сёння — завадатар многіх культурных спраў, якія прасякнуты ідэяй выхавання беларускасці ў дзяцей і іх бацькоў. Не памылюся, калі скажу, што на любові да беларускага слова тут выхавана насельніцтва ўсёй акругі (школу наведваюць дзеці дзевятнаццаці навакольных вёсак).

Каля 15 гадоў настаўнікі школы і навучэнцы займаюцца вывучэннем і аднаўленнем мясцовых культурных традыцый. Іх намаганнямі былі падрыхтаваны і праведзены святы вёсак, фэст народных абрадаў, цяперашні фестываль.

М. Козенка, які год назад узначаліў дзіцячую школу мастацтваў у суседняй з Мётчай вёсцы Вялікая Ухалода, займаўся вывучэннем мясцовага танцавальнага фальклору з адначасовым навучаннем дзяцей асновам народна-бытавой харэаграфіі, знайшоў у настаўніках Мётчанскай школы і яе дырэктары аднадумцаў.

І вось фестываль — вынік плённага супрацоўніцтва. Ва ўпершыню на Беларусі праведзеным конкурсе на лепшае выкананне народна-бытавога танца прыняло ўдзел каля 50 пар школьнікаў розных узроставых груп: 2—3, 4—5 і 6—8 класы. Вось толькі пералік танцаў, па якіх дзеці трымалі экзамен: "Мальвіна", "Картузэ", "Карманчыкі", "Лявоніха", "Падэспань", "Какетка", "Полька", "Кракавяк", "Матлёт", "Базар", "Каханачка" і іншыя. Журы з вядучых у рэспубліцы навукоўцаў і харэографаў, ці як іх яшчэ называлі — экспертаў, рабіла адбор у 1/8, 1/4, 1/2 фіналу і фінале. Танцавальны марафон у першы дзень цягнуўся амаль шэсць гадзін.

У прышкольным парку для фестывалю была абсталявана шыкоўная сцэна і месцы для гледачоў, але праліўны дождж з парывамі ветру прымусіў змяніць сцэну на невялічкую залу школьнай сталовай.

Трэба было бачыць разрувальныя тварыкі маленькіх прыгажунь, што заліхвацка таньчылі пад рытмы беларускіх народных мелодый! Апранутыя ў стрымана дэкаравання ў народным стылі кашулькі, зборыстыя спаднічкі, з хораша заплеценымі коскамі дзяўчаткі ўяўлялі сабой цудоўнейшыя вобразы маленькіх беларусачак. А вясковыя хлопчыкі, якія з дапамогай педагога пераадлелі псіхалагічны бар'ер — узяць за руку і прыабняць у танцы сваю партнёрку, стала падперазаўшы ўзорыстым паяском святочныя кашулі, выглядалі галантнымі кавалерамі. М. Козенка справядліва лічыць, што дзіця, далучанае да мастацтва танца, можна лічыць выхаваным. Бо паважлівая да жанчыны мадэль паводзін са сцэны аўтаматычна пераносіцца ў жыццё.

Тут, на Барысаўскай зямлі, М. Козенка прадоўжыў апрабацыю сістэмы вуснай перадачы традыцыйнага фальклору і народнай харэаграфіі, распачатай у Чачэрску. Уражвае эфект гэтай працы. Рытмічны і пластычны малюнак народнага танца з лёгкасцю засвойваецца дзецьмі, простыя і зразумелыя сюжэты і рухі даюць магчымасць і для самараскрыцця: танцуючы, нават малое (сямі-дзесяцігадовае) дзіця пачынае імправізаваць, як бы жыць гэтым танцам.

Я пераканана, што такі падыход, які мы бачылі, — гэта ажыццёўленая методыка эстэтычнага і ўсіх іншых відаў выхавання на аснове нацыянальнай мастацкай традыцыі. Калі-небудзь, калі наша грамадства пасапраўднаму дарасце да неабходнасці выхавання нацыянальна-свядомага чалавека, без напрацовак М. Козенкі яму не абысціся. Бо танец, які спалучае ў сабе пластыку, музыку, касцюм — гэта самы сканцэнтраваны адбітак душы народа. Сярод усіх відаў мастацтва ён мае найвялікшы ўплыў на чалавека.

**Л. СІВУРАВА**

# "І не ўвядзі нас у спакусу..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

самі, што даверліва і наіўна шукаем простых рашэнняў са складаных жыццёвых калізій. Не ўсіх жа "за ручку" цягнуць. Але, як казаў адзін знакаміты паэт, калі зоркі запальваюць, значыць гэта каму-небудзь патрэбна. Відаць, некаму і патрэбна, і выгадна. Каму ж? На першы погляд, быццам бы і нікому. Ад гэтага спакуслівага і вельмі стойкага граху пакутуюць усе — ад ненакормленага немаўляці да вялізнага механізма самой дзяржавы. Ды чамусьці згадваецца зусім нядаўняя слаўная савецкая рэчаіснасць, калі "квіток" у тую быццам бы небяспечную для ўсіх краіну каштаваў вельмі мала і набыць яго мог нават апошні бедалага. Справа, вядома, не толькі ў кошце, справа хутчэй за ўсё ў палітыцы самой сістэмы, у якой ёсць вельмі пэўныя "рэзоны" спрасціць доступ да гэткага своеасаблівага "шчасця".

Тыя "рэзоны" практычна на паверхні. Яны маглі б быць абсурднымі для сістэмы з іншымі эканамічнымі стасункамі, з іншымі маральнымі імператывамі, а падчас савецкай і постсавецкай эры як мага лепей "кладуцца" на агульнае маральнае рэчышча...

Чалавек, які злоўжывае "божай слязою", паступова становіцца сацыяльна, ды па сутнасці юрыдычна, бяспраўным, бо паступова прапівае не толькі ўсе свае матэрыяльныя набыткі, але і сумленне, і гонар, і годнасць. Разбураюцца практычна ўсе маральныя блакіроўкі, якія не толькі падтрымліваюць гармонію ўнутры самой асобы, але і абараняюць яе ад шкодных знешніх уздзеянняў. Усё мацнее залежнасць ад "рукі даючай" — дзяржавы, сістэмы, уласнага начальства. Яму, гэтаму выкрутліваму начальству, нават выгадна, калі ты "скампраметаваны" гэткай непераадольнай страсцю, калі цябе можна шантажаваць ёю, а значыць і скіроўваць у патрэбным кірунку. Пад тым "дамоклавым мячом" чалавек дэградуе яшчэ мацней, увесь час адчуваючы пагрозу рэпрэсій. Такога чалавека можна запраста кінуць у каталажку, і ён наўрад ці будзе "качаць правы", прынамсі, калі працвеьразее. Такі вось аматар падарожжаў у краіну ілюзій па сутнасці з усіх бакоў залежны, бяспраўны і, як гэта ні парадаксальна, лёгка кіруемы. У тым, што наша сістэма "зацікаўлена" ў такім вось "кампрамацэ" на чалавека і многія гады даволі інтэнсіўна карысталася такой сітуацыяй, практычна няма сумненняў. Дастаткова звярнуцца да крымінальнага, а асабліва да адміністратыўнага кодэксаў, дзе прадугледжаны даволі спецыфічныя меры для "барацьбы" з п'янствам. Справа нават не ў тым, што яны заўсёды былі даволі жорсткімі, а ў тым, што мэтанакіравана заганялі такога чалавека ў кут, дзе ім можна было рабіць што заўгодна.

Ёсць для любой сістэмы, а асабліва недэмакратычнай, і яшчэ адна відавочная выгада. У запалёным мозгу істоты, што адзінай мэтай для сябе бачыць магчымасць прыліпнуць да выратавальнага рыльца, практычна не знаходзіцца месца ні для якіх палітычных і грамадскіх ідэй, а тым больш якіх-небудзь духоўных крытэрыяў. Наадварот, смяротна варожым становіцца любы маральны імператыў, які так ці інакш узнікае на шляху да жаданага "расслаблення". Што ўжо казаць пра ідэі, апазіцыйныя ўладзе! Сістэма, зацікаўленая ў залежнасці і кіруемасці суб'ектаў, будзе ўсяляк падсілкоўваць іхнюю "слабасць". Болей таго, чалавек, які здольны цвяроза паглядзець на рэчаіснасць, становіцца проста небяспечным. У затуманенай, мутнай рэчаіснасці лёгка сілкуецца ўсялякая нечысць і набрыдзь, там лёгка лавіць жаданую "рыбку", прычым оптам, асабліва тым, у каго ў руках легітымныя сеткі і невады...

Для гэтых "рыбакоў" двайная выгада: стабільны і вельмі значны навар з суперактыўнага "тавараабароту" пэўнай прадукцыі і практычна беспрашкоднае праштурхоўванне ў асяродку дарэшты разбураненага і прышыбленага, споенага да прастрацыі кантынгента любой, нават самай абсурднай палітычнай ідэі. Наўрад ці ў такім асяродку тая ідэя будзе падвергнутая аналізу ці сумненням. Для гэтай зусім не малой часткі электарату ўсё пойдзе "на ўра". Дарэмна нехта сумняваецца, што такога кшталту выбаршчыкі будуць хадзіць на выбары. Пры неабходнасці, асабліва ў правінцыі, яўка іх забяспечваецца вельмі арганізавана. Нямала пакуль яшчэ ў нашым грамадстве ўмелых "пастухоў", якія, калі ёсць каманда зверху, скіроўваюць дэзарыентаваны натоўп куды трэба.

Лішне казаць, што такая "палітыка" ўрэшце асуджаная на правал, што рана ці позна дэградацыя захопіць не толькі "пастухоў", але і іх гаспадароў, бо запас фізічнай і маральнай трываласці народа паступова змяншаецца. Яшчэ ніколі ў гісторыі не стаўся слушным прынцып: "пасля нас хоць патоп!", які сёння ўзяты на ўзбраенне празмерна раздутай хеўрай нашых "пастухоў" і іх "падпаскаў".

### IV

Цяжка, часам проста немагчыма, змагацца сёння з амаль што масавым зыходам у вельмі ўжо прыцягальную Краіну Бахуса. Яе туман-дурман, калі з ім змагацца лабавымі метадамі, бы нейкая ўсяісная пачвара, як толькі яе не пускаюць праз дзверы і вокны, лезе праз любыя, нават самыя маленькія шчыліны. Але ўсё ж дурман імкнецца найлепш туды, дзе пуста, дзе стойкі вакуум. Вакуум душы. Перамагчы гэтае зло зусім, як і ўсялякае іншае, практычна немагчыма. Але можна межы тае краіны аддаліць, прынамсі, на небяспечную адлегласць. На такую адлегласць, каб шкоднае ўздзеянне яе не атруціла асноватворныя генетычныя і духоўныя крыніцы нацыі. Дзеля гэтага той вакуум трэба няўхільна запаўняць, не шкадуючы на гэта сродкаў і высілкаў. З тымі, у каго пуста на душы, хто не ў стане "даць здачы", лёгка эксперыментаваць.

А пакуль што "халодны і чорны" выступ, што ўвышаецца над краінай ілюзій і які сімвалізуе яе ўладную моц, бязлітасную і небяспечную практычна для ўсіх нас, дзіўным чынам расце проста на вачах. Цень ад яго імкліва насоўваецца на апошнія светлыя пакуль яшчэ зоны бяспекі нашых стомленых ад бясконцай "барацьбы" душ. Цень той навісае не толькі над нашай Беларуссю. Яшчэ болей навіс ён над нашай суседкай Расіяй. Можа, якраз з-за гэтага яе не "объять" нармальным розумам. Можа, таму мы і імкнёмся туды — пад больш густы "цянёк"...

Не абмінае ён і "цывілізаваны свет". Толькі, адрозна ад нас, там хапае сіл і сродкаў, каб утрымліваць неабходную раўнавагу, нейкі баланс паміж жыццём і ілюзіяй. А гэта вельмі нямала каштуе.

Што да нас, то кожны дзень нашага рэальнага жыцця даецца нам усё цяжэй і цяжэй, і мы ўсяляк імкнёмся ўцячы ад яго. Ды ўсё роўна ад сябе нікуды не ўцячэш і нашыя праблемы прыйдзецца вырашаць самім, толькі на гэта спатрэбіцца значна болей часу і высілкаў.

І апошняе. Дарэмна тыя, хто сёння ізноў уводзіць народ у спакусу, разлічваюць пад яе прыкрыццём "праскочыць" у тое "светлае будучае", якое яны так інтэнсіўна для сябе будавалі і будуюць. "Спакушальнікам" рана ці позна за сваё "свавольства" прыйдзецца дорага заплаціць, бо аніяк немагчыма будзе размінуцца на вузкай дарожцы лёсу, якая ўсіх нас вядзе зусім не ў краіну ілюзій...

# "Каб праясніць над Беларуссю еўрапейскае неба..."

## НА ПЫТАННІ АЛЕСЯ РАЗАНАВА АДКАЗВАЕ СЛАВЕНСКІ ПАЭТ ВЕНА ТАЎФЕР

**А. Р. У абгрунтаванні галоўнай літаратурнай прэміі Славеніі — прэміі імя Прэшэрна, якую Вы атрымалі летась, можна прачытаць наступнае: "Агляд дзесяці арыгінальных зборнікаў Вена Таўфера сведчыць пра тое, што мы маем справу з паэтам, які прыналежыць як да пачатковай, так і да спелай пары славенскага паэтычнага мадэрнізму". Такім чынам, славенскі паэтычны мадэрнізм: што азначае ён для Вас і што Вы для яго? Раскажыце, калі ласка, пра свой літаратурны шлях.**

**В. Т.** Належу да генерацыі, што адразу пасля свайго аб'яўлення — а гэта было ў 50-я гады — займела найменне "крытычная генерацыя". Было нам тады па дваццаць-дваццаць пяць гадоў, і ўсе мы за сабою мелі досвед вайны і акупацыйнага змусу, а таксама народна-вызваленчага змагання з разнастайнымі праявамі камуністычнай рэвалюцыі, ці, кажучы інакш, грамадзянскай вайны 1941—45 гадоў. У час вайны мы былі малымі падшыванцамі і далёка не ўсё з таго, што бачылі, тады разумелі, аднак усё-такі адчувалі, што справядліва, а што не.

Пасля вайны, у першыя гады сталінскага дыктату, які не перапыніўся з-за спрэчкі югаслаўскіх камуністаў са Сталіным, а набыў свой, югаслаўскі, варыянт, мая генерацыя сталася тою актыўнаю часткай грамадства, што імкнулася замест камуністычнага самаўладдзя аднавіць плюралізм — беручы за ўзор палітычную кааліцыю прагрэсіўных сіл, што ў 1941 годзе заснавалі Вызваленчы фронт. Мы верылі, што ідэя "самакіравання" прынясе і ўмацуе зародкі дэмакратыі, перадусім жа мы вызнавалі аўтаномнасць мастацтва і свабодную творчасць думкі. Але дужа хутка наш юначы ідэалізм наштурхнуўся на ўладны цынізм рэжыму: нашы ідэі і нашы ініцыятывы мала што не знайшлі ў рэжыму падтрымкі, а былі асуджаны ім на задушэнне — у ход былі пушчаны юрыдычныя рэпрэсіі і паліцэйскія захады.

Спачатку мы гуртаваліся вакол часопіса "Beseda" ("Слова"), але неўзабаве ён здаўся нам недастаткова радыкальным — у той час мы ўжо арыентаваліся на экзістэнцыялізм, найперш на Сартра і Камю, і прага мадэрнісцкага асваення рэчаіснасці і мастацкіх эксперыментаў нас штурхала далей. Мы заснавалі новы часопіс, "Рэвю 57", і разам з маладымі акторамі і рэжысёрамі таксама авангардны тэатр "Сцэна 57" (у рэвю я працаваў літаратурным рэдактарам, а ў тэатры адміністратарам). Праз нейкі год з паловаю існавання "Рэвю 57" было забаронена; часопіс "Перспектывы", які прыйшоў яму на змену, нягледзячы на беспярапыннае супрацьдзеянне, праіснаваў трохі больш — з 1960 па 64 год. Падобная гісторыя паўтарылася і з нашым тэатрам, а пазней, у 70-я гады, што здабылі найменне "свінцовыя гады", і з часопісам "Праблемы". Нарэшце, у 1982 годзе, мы пачалі выпускаць "Новае рэвю", якое выходзіць і цяпер і побач з Саюзам славенскіх пісьменнікаў уяўляе інтэлектуальны асяродак, своеасаблівы "think-tank" славенскай рэчаіснасці.

Што ва ўсім гэтым тычыцца мяне асабіста, дык я найперш рупіўся пра тое, каб тварыць паэзію, якая б выяўляла мяне. Безумоўна, пазней тварыць "сваю" паэзію ўжо само па сабе станавілася палітычным дзеяннем, актам, скіраваным супраць усюдыіснай і ўсюдыпрысутнай сацрэалістычнай паэтыкі, як і факт выхаду майго першага зборніка "Свінцовыя зоркі" ў самвыдзе. Адхіленыя па ідэалагічных прычынах дзяржвыдавецтвамі (а іншых на той час не было), у самвыдзе ў той самы год, што і мой зборнік, выйшла таксама "Спаленая трава" Данэ Зайца, а праз восем гадоў "Покер" Томажа Шаламуна.

На думку крытыкаў і гісторыкаў літаратуры, я "ўгрунтаваў славенскі літаратурны (неа)авангард і мадэрнізм, а потым і постмадэрнізм", для мяне ж асабіста ў паэтычнай творчасці заўсёды было самым істотным узаемадзеянне "што" і "як". Даволі рана я адкрыў для сябе мову як адметную, аўтаномную рэальнасць, у якой акумуляваны глыбачэзны досвед народа, генерацый творцаў. Паэтам становіцца той, каму дадзены дар асаблівага моўнага адчування, той, хто адкрывае і стварае "камунікацыі" між паэтычнымі артыкуляцыямі колішніх досведаў, акумуляваных у традыцыі, і сваімі ўласнымі. На гэтых "скрыжаваннях", у гэтых сустрэчах якраз і танцуе свой танец паэтычная энергія, дзейсніцца таямніца магічнага выслаўлення быцця. З самага пачатку ў маёй паэзіі не абы-якое месца займае сустрэча з міфамі, архетыповымі сітуацыямі, са славенскай народнай паэзіяй — пра гэта кажа і назва "Спеўнік ужываных слоў" аднаго майго зборніка; зборнік жа "Вадзянікі" стаўся спробай фрагментарнага "ажыўлення" старадаўняга крыку, знямелага ў каменнай скульптуры, тых дзівосных істотаў, што напалову рыбіны, а напалову чалавекі, са стойбішча неатаасамленай, пэўна, яшчэ дагамераўскай цывілізацыі, якое было адкрыта каля Лепеньскага Віра на Дунаі, — "ажыўлення" праз сучасны досвед катастрафічнага "знікнення атамнай цывілізацыі".



Зазначу яшчэ, што мая паэзія не карысталася шырокай папулярнасцю, яна лічылася "паэзіяй для паэтаў", што, зрэшты, таксама было адмысловым прызнаннем яе ролі і месца. Я не адчуваў патрэбы ў пісанні ангажаваных палітычных вершаў: па-першае, мне гэта не дазваляла рабіць маё разуменне з'явы мовы, а па-другое, я пісаў многа проста палітычных тэкстаў, у тым ліку задоўга да незалежнасці ўдзельнічаў у напісанні Славенскай канстытуцыі (гэтую справу мы лічылі "пісьменніцкай" справай).

**А. Р. Ужо пяць гадоў Славенія незалежная дзяржава. Што змянілася ў Славеніі за гэты час? Як жыве і маецца славенскі пісьменнік? У мяне, напрыклад, склалася ўражанне, што славенскія кнігі дужа дарагія. Ці гэтаксама, суадпаведна кошту кніг, цэніцца і праца славенскага пісьменніка?**

**В. Т.** З таго часу, як Славенія стала незалежнай і перадусім дэмакратычнай дзяржавай, у галіне культуры замест ранейшага, больш ці менш рыгарыстычнага, ідэйнага таталітарызму запанавала дыктатура "безыдэйнай" рыначнай свабоды. У невялікай Славеніі, насельніцтва якой складае каля 2 мільёнаў чалавек, рыначныя адносіны ў галіне культуры разам з поўнай свабодай прапановы і попыту нясуць з сабою таксама пагрозу знішчэння, нівеліравання ўсяго, ці па крайняй меры шмат чаго, што з'яўляецца сапраўды мастацкім і непапулісцкім... Калі мы, пісьменнікі, раней змагаліся за свабоду мастацкага самавыяўлення, дык цяпер змагаемся за адмену абкладання падаткам кнігі як спажывецкага тавару, за асаблівы статус славенскай кнігі, чыё існаванне знаходзіцца пад пагрозай, за некаторыя падатковыя палёгкі ў галіне мастацкай і творчай дзейнасці, а таксама супраць кваліфікацыі мастака як звычайнага рамесніка, механіка, сантэхніка... Не сакрэт, рамеснік у гэтакіх умовах мае выгаднейшы статус, пра шмат якія ягоныя гешэфты з кліентамі дзяржава зусім нічога не ведае, напрыклад, колькі дае на рукі сантэхніку грамадзянін, у кватэры якога здарыўся "патоп", між тым маленькі пісьменніцкі ганарар праходзіць праз усе кантрольныя інстанцыі... Што ж, такі стан рэчаў, мы яго займелі разам са свабодай. Праўда, мы далёка не перакананы, што тыя цяжкасці, з якімі сустракаецца пісьменнік, мусовая плата за свабоду. Тое, што славенцы нешматлікі народ, а Славенія невялікі рынак, безумоўна, таксама адбіваецца на пісьменніцкім дабрабыце. Мала які славенскі пісьменнік, які нават карыстаецца поспехам у чытачоў, рашаецца жыць на заробак ад сваёй працы. Той, хто на гэта ідзе, мусіць пісаць так шмат і шпарка, што неўзабаве творча вычэрпваецца...

Але калі б нам пашанцавала і мы дамагліся спрыяльнейшых умоў для арыгінальнай славенскай літаратуры, мяркую, славенская кніга і надалей застанецца дарагой. У гэтым у нейкай меры вінаваты мы самі: славенскія пакупнікі кніг даволі пераборлівы і распешчаны народ; дый друкарская культура кнігі заўсёды была ў Славеніі на высокім узроўні — славенцы лепш дадуць за кнігу трохі больш, чым стануць купляць брашураваную ці надрукаваную на кепскай паперы. Так званая "кішэнная кніга" яшчэ толькі здабывае месца пад сонцам. Сітуацыя пэўным чынам крытычная, хоць статыстыка канстатуе, што цяпер у Славеніі выдавецтваў у шмат разоў больш, чым кнігарняў. Але пераважная большасць з іх гэта маленькія, ці нават зусім маленькія, выдавецтвы, якія выпускаюць у год не больш за дзесятак кніг. Калі дзяржава, якая мусіць дбаць пра нацыянальную ідэнтычнасць, не знойдзе ў "кніжнай" справе аптымальнага рашэння (як, напрыклад, некаторыя скандынаўскія дзяржавы), на нейкае "нябеснае" прасвятленне ў галовах тутэйшых бюракратаў давядзецца чакаць невядома як доўга. Саюз славенскіх пісьменнікаў таксама не намерваецца мірыцца з даволі абсурднай і для нацыянальнай палітыкі контрпрадуктыўнай з'явай, калі паэтычны зборнік (прыкладам, у сто старонак, як выдадзеная летась мая кніжка вершаў) каштуе больш за 4 тысячы славенскіх толараў (у той час калі ў Нямеччыне за гэтыя самыя грошы, што тоесныя прыблізна 50 маркам, можна здабыць куды больш культурны "спажытак"). Такім чынам, недаацэненая праца славенскага пісьменніка трансфармуецца ў дужа дарагія выданні. Тут недзе парушана раўнавага, ці не так?

**А. Р. Вы дырэктар міжнароднага літаратурнага мерапрыемства "Віленіца", якое Вы заснавалі больш чым дзесяць гадоў таму назад. Летась я быў удзельнікам адзінаццатай "Віленіцы" (і, здаецца, наогул за ўвесь час існавання "Віленіцы" першым удзельнікам з Беларусі). Выклікала здзіўленне вялікая колькасць прысутных — пісьменнікаў з розных краін. Ці не маглі б Вы расказаць пра "Віленіцу" больш падрабязна?**

**В. Т.** Думаю, не памылюся, калі скажу, што "Віленіца" адзіная міжнародная сярэднееўрапейская літаратурная прэмія (бачыце, колькі эпітэтаў сабралася разам!). Прызначае яе журы славенскіх пісьменнікаў, і ўпершыню яна была ўручана ў 1986 годзе італьянскаму пісьменніку Фульвіо Таміца; потым яе атрымлівалі: у 1987 г. аўстрыйскі пісьменнік Петэр Хандкэ, у 1988 — венгерскі пісьменнік Петэр Эштэрхазі, у 1989 — чэшскі паэт Ян Скацал, у 1990 — літоўскі паэт Томас Венцлава, у 1991 — польскі паэт Збігнеў Гэрберт, у 1992 — чэшскі празаік Мілан Кундэра, у 1993 — нямецкая пісьменніца чэшскага паходжання Лібушэ Монікава, у 1994 — баснійскі паэт Ёсіп Осці, у 1995 — швейцарскі празаік Адольф Мушг, у 1996 — польскі паэт Адам Загаеўскі і сёлета журы назвала лаўрэатам славацкага пісьменніка Паўла Вілікоўскага.

З прэміяй "Віленіца" звязана штогадовая сустрэча паэтаў, празаікаў, эсэістаў і рэдактараў з 17 сярэднееўрапейскіх краін і гасцей — аўтарытэтных паэтаў з Заходняй і Усходняй Еўропы ды Амерыкі. Тры дні ўдзельнікі "Віленіцы" выступаюць на літаратурных мерапрыемствах і ў дыскусіях у Ліпіцы, — мястэчку, што знаходзіцца на мяжы з Італіяй, і ў іншых мясцінах, што суседнічаюць з тутэйшай сталактытавай пячорай "Віленіца", імя якой далося і прэміі, і сустрэчы. Вы самі маглі пераканацца, гэта дзівосная пячора, сапраўдны падземны сабор, яна здаўна хвалявала людское ўяўленне і натхняла паэтаў, у ёй навакольныя жыхары хаваліся падчас турэцкіх набегаў, у час войнаў, тут яны адводзілі душу ў спяванні славенскіх песняў, калі акупантамі гэта было забаронена.

Штогод, якраз да сустрэчы, мы друкуем зборнік "Віленіца": у ім на мове арыгінала і ў перакладах на славенскую і на адну з "сусветных" моў змяшчаюцца творы запрошаных паэтаў і празаікаў. Такія штогадовыя "аператыўныя анталогіі" дазваляюць прасочваць і выяўляць адметнасці літаратурнага працэсу ў сярэднееўрапейскім прыгожым пісьменстве.

З самага пачатку свайго існавання "Віленіца" была тэрыторыяй сустрэчы сярэднееўрапейскіх дысідэнтаў-эмігрантаў з "самвыдаўскімі" калегамі, чыннікам імкнення славенскіх пісьменнікаў да дэмакратыі, якое, урэшце, прывяло да палітычнага плюралізму і Славенскай дзяржаўнасці.

У першыя гады "віленіцкіх" сустрэч Сярэдняя Еўропа ўяўляла "замарожаны" свет, і таму тагачасны камуністычны славенскі рэжым быў не дужа прыхільны да ідэі "Віленіцы" — "сталіцы сярэднееўрапейскай рэспублікі духу" (як яе найменаваў Дзёрдзь Конрад на адным з першых дыспутаў). Аднак і па ўпадзе берлінскай сцяны мэта "Віленіцы" засталася той самай: прыцягваць увагу міжнароднай супольнасці да славенскай літаратуры як да арыгінальнай і паўнапраўнай сярэднееўрапейскай з'явы і разам з тым акрэсліваць і асэнсоўваць самі сярэднееўрапейскія літаратуры як з'яву мастацкіх артыкуляцый адметнага жыццёвага досведу народаў Сярэдняй Еўропы. "Віленіца" адкрывае Еўропе і свету Славенію і адначасова прапануе заходнім і еўрапейскім культурам такі лад мыслення, які, сведчачы пра недастатковасць паасобных культур (любая ўяўная самадастатковасць спараджае агрэсіўнасць) і шануючы адметнасці, уласцівыя ім, здольны стварыць новую, аб'яднаную Еўропу, якую характарызуюць, як зазначана ў статуце "Віленіцы", "цярплівасць, неагрэсіўнасць, узаемаразуменне, плюралізм, інакш кажучы, інтэграцыйны прынцып разнастайнасці". Перакананы, досвед "Віленіцы" неабходны для вырашэння планетарных праблемаў культуры і чалавечага суіснавання.

"Інтэграцыйны прынцып рознасці", які шмат каму напачатку здаваўся дзіўнай формулай, цяпер, пасля распаду "цэнтраў адзінства", сам па сабе становіцца відавочным і зразумелым. Гэткім жа відавочным і зразумелым мусіць стаць прынцып планетарнай свядомасці разнастайных культур; палітычныя праблемы мусяць вырашацца, зыходзячы з культурных праблем — у адваротным выпадку мы альбо забрыдзём у гратэскныя мегаімперыі, альбо прыклічам шалёных апакаліптычных вершнікаў. З усведамлення свайго непадабенства, адметнасці, несамадастатковасці, ранлівасці мы якраз і чэрпаем сваю самасвядомасць, самастойнасць, ідэнтычнасць. Гэта тлумачыць і абгрунтоўвае "Віленіца", гэта тлумачаць і абгрунтоўваюць мастацкія артыкуляцыі досведаў сярэднееўрапейскіх паэтаў і празаікаў, іхнія творы.

*(Працяг на стар. 14—15)*

англійскім перакладах. Ён завітаў і ў Саюз славенскіх пісьменнікаў, сакратаром якога я тады быў. Мяне глыбока ўразіў ягоны расказ пра цяжкі лёс беларускай культуры, здушанай русіфікацыяй. Гаворка ішла ўжо не пра адкрытую і ранлівую культуру, якую жывіць кантакт з іншай, дужэйшай культурай, хутчэй, пра культуру смяротна параненую. Вядома, я ўспрымаў тады яго словы пра пагрозу знікнення мовы, традыцый, самой з'явы беларускай літаратуры па аналогіі са славенскім кантэкстам, хоць у тагачаснай Юга(серба)славіі ён не быў такім бядотным. Гілевічаў расказ пакінуў ува мне глыбокі след — і неаднойчы згадваўся, як напамін.

Таму для мяне аказалася такою каштоўнай сустрэча з Вамі, калі я займеў магчымасць ужо ў іншым часе і ў іншых акалічнасцях зноў ажывіць з Вашай дапамогай кантакт з Беларуссю, і больш за тое, пачаць яго паглыбляць. Мне было горка, калі я даведаўся пра смерць Анатоля Майсені — яго эсэ сталася для нас праўдзівай і занепакоенай інфармацыяй з першых рук пра сённяшнюю Беларусь. Яно выклікала шырокую зацікаўленасць, маеце рацыю, мы распазнавалі Беларусь як нейкую terra incognita.

На заканчэнне зазначу, што задача "Віленіцы" і ў тым, каб рассеяць "імглу" над Беларуссю, каб праясніць над ёю сярэднееўрапейскае неба, да якога яна па сваіх чалавечых і народных параметрах і прыкметах належыць.

*будзем абодва*
*тойсамы труп*
*які пракляло нізавошта*
*сляпое сонца*

## Вечаровы раманс

*крышыцца грудка глебы*
*каліўцы цемры прысмоктваюцца*
*да скуры*
*жменю затуліш і зноў адтуліш*

*слізгае па хрыбце вербалозавы луб*
*лопаюцца чарацыны ў целе*
*вецер пазногцямі ўдрапваецца*
*аднясе*
*і зноў прынясе ялавае насенне*

*ружа ў цябе вырастае з вуснаў*
*месяц за ёй назірае*
*адтуліцца ружа*
*месяц затуліць вочы*
*забудзеш і зноў успомніш*

●

*дзень выпрабаваны як усякі*
*скрозь пальцы нябожчыкаў*
*упершыню*
*убачаная бажніца*

*яе заўважае малюнак вачэй*
*каб перадаць яе ўглыб*
*першатворнай прасторы*
*куды лезе прагны густы тлустазём*

*што сягае да вуснаў калі размаўляеш*
*з лазой неабрэзанай вінаграднай яна*
*цягнецца да таемных галін успаміну*

*і пакідае ім вочкі-пупышкі няхай*
*адтуляцца ўрэшце ў крыві хай лопнуць*
*і ўжо не адчэпіш*
*ад пальцаў прынятых*

*лістоў цяпер ведаеш чаму бог*
*быў убалочаны дужа*

## Табарныя агні

*войска паморак голад непамыслоты*
*усё тут адразу як узнікаюць*
*не ведаем бо звычайна*

*усё і ўсюды звычайна і позні*
*ўжо час і калі*
*паклалася ў запісы*

*цяглыя цені*
*кладуцца на шлях*
*і нябёсы раптам*

*каменныя ад здарэнняў*
*круцяцца*
*мелюць галовы ўспаміны сны*

*доўгія чэргі хісткіх пастаў*
*абозы ў вірах у сцюдзёных*
*вогненных кіпцях*
*і пухіры гарадоў засмяглыя смокчуць*

*веецца ў выдмы мучністы пыл*
*і караваны знямоглыя ў знобкіх*
*начах нацянькі*

*з таго боку абрысаў*
*табарных сціхлых агнёў таямніца*
*страшная манна ўздыхаў*
*што падаюць долу*

## Воск

*у вечнасць з вачэй*
*нацякае*
*воск*

*неспадзеўна*
*заблытаецца ў валасах*
*зашчыміць у горле*

*і адгукнецца ў грудзях*
*вечнасць твая і тады*
*штось азірнецца і ты адчуеш*

*праз віраванне крыві на імгненне*
*аддзелены ад кахання*
*і ад турботы, з якой*
*маці прычыніць дзверы,*
*а іх са стукам*
*зачыніць скразняк, ажно дзецi*

*ускрыкнуць у страху ад сну*
*не збуджаныя а піхнутыя цераз*
*парогі сноў*

## Па сцяне

*бог не ў богу аднак*
*у дарозе да бога*
*лаза па сцяне расце*

*слова не ў слове*
*а ў вымаўленні*
*рука сягае да вуснаў*

*як гэты дзень ні ў дні*
*ні ў ночы ні ў дадаванні ні ў адыманні*
*цябе са мною мяне з табою*

*жыццё*
*не згуба і не здабытак*
*а разам*

*гэты пісяг на сцяне*
*між намі*
*крэсліць пазногцем смерць*

●

*хто ведае*
*як*
*гэты рог*

*з далячыняў*
*іграе бог з далячыняў*
*на пстрыканне пальцаў*

*божай красы і людзі*
*над струмянямі па берагах*
*у кожнай дзіры нягеглай*

*плавае цёплы дух*
*малакаў народжаны*
*назаўсёды*
*смяротны,*
*спыняюся тут калі*

*пад крокамі крэхаюць*
*пыльнікі і хрушчы*
*спакой а не ты а ты не*
*і ўжо не з бяздонняў*
*і не з вышыняў*

●

*падрыхтаваны*
*ў тваіх руках*
*госпадзе каб ісці*

*на дарогу*
*з узбочыны*
*нібы сізіфаў камень*

*качаны*
*між агароджаў карэння кветак*
*у слёзах у іскрах*

*ад верху да нізу*
*на друзачкі*
*раскалюся*

*паранены*
*ў прах і ў крышталі*

**Пераклаў са славенскай**
**Алесь РАЗАНАЎ**

пад куртку, і выцягнуты на волю наган цьмяна бліснуў у святле плафонаў.

Яны адразу спыніліся, але самы малады з іх, у жоўтай скураной куртцы, які ішоў ззаду, закрычаў:

— Ды не бойсь, гэта ў яго не сапраўдны!

І тут мужчына ўстаў ім насустрач, ускінуў руку са зброяй, і тры стрэлы, без паўзы, адзін за другім узарвалі вагон.

...Хутка развіднела. Лес ажыў і напоўніўся галасамі птушак і мяккім шолахам маладога лісця ў вершалінах дрэў.

Мужчына ішоў па вузкай дарозе ў выбраным ім напрамку. Ён стаміўся, бо не спаў ноч, але не гэта непакоіла яго. Мапа — вось што яму трэба, думаў ён, а яшчэ другая вопратка і потым — спадарожная машына ў бок мяжы. Лепш да ўкраінскай. Ён згубіцца там, сярод іншых, ідзе ўжо лета, на дарогах поўна бадзяг, уладкуецца куды на сельгасработы ці, наадварот, застанецца ў якім вялікім горадзе, не ўсё яшчэ так дрэнна. Мужчына абшукаў кішэні курткі і нагавіцаў. Грошай, у асноўным ад продажу газет у той дзень, было няшмат, але на хлеб і спадарожную хопіць. Цяпер трэба зайсці ў якую вясковую краму і купіць хлеба. Усё роўна ён мусіць вылезці калі-небудзь з гэтага лесу — тут ужо нічога не зробіш. Лес станавіўся ўсё больш рэдкі, дарога ўсё шырэйшая, і мужчына разумеў, што хутка выйдзе да якога жытла. Ён зірнуў на гадзіннік, і вырашыў адпачыць, бо крамы адчыняюцца яшчэ не хутка. Мужчына збочыў на ўзгорак і прысеў пад сасной, спінай да дрэва. "Дай мне частку сваіх сіл, дрэва, — папрасіў ён у думках, — бо наперадзе ў мяне зноў дальняя дарога, і за мной ужо ідуць, как адабраць апошняе, што ў мяне засталося: мой наган і маё жыццё".

Раптам ён задрамаў, нават не задрамаў, а быццам правалюўся ў забыццё. Сон быў кароткі і цяжкі. Мужчыне снілася будоўля: вецер працінаў яго на вышыні, рыштаванні пахістваліся пад нагамі, а ён адну за адной клаў цагліны. Раствор — цэгла, цэгла — раствор. Ён прачнуўся і застагнаў, бо цела здранцвела, было золка і холадна, выпала раса, і ногі яго ў красоўках прамоклі. Мужчына зірнуў на гадзіннік, і падняўся.

Праз нейкае паўгадзіны ён ужо выйшаў ці то да пасёлка, ці то да вёскі. Мужчына не рызыкаваў спытаць у рэдкіх сустрэчных, дзе знаходзіцца крама, меркаваў, што ўсе крамы звычайна ў цэнтры, і ён пайшоў па вуліцы да цэнтра, які вызначыў па двух, больш высокіх за іншыя, у два ці тры паверхі будынках.

Крама якраз займала першы паверх аднаго з гэтых будынкаў, яна адчынілася а восьмай гадзіне раніцы, ён прачытаў пра гэта на шыльдзе, а было ўжо каля дзесяці. Мужчына зайшоў у дзверы і спыніўся ля прылаўка. Людзей было зусім мала. Мужчына ўбачыў бляшанкі кансерваў, хлеб і стаў у чаргу. Ён папрасіў у прадаўшчыцы — мажнай жанчыны гадоў сарака з ружовага колеру барадаўкай ля носа — хлеба, некалькі бляшанак кансерваў і мінеральнай вады.

Прадаўшчыца прынесла хлеб, кансервы, і мужчына дадаў:

— І торбачку якую.

— Хіба вы ішлі ў магазін без торбы? — раптам спытала прадаўшчыца і ўважліва зірнула на яго. — А вада? Вы не тутэйшы? У нас ніхто гэтую ваду не п'е, у мяне ўсяго адна скрыня, бярыце што больш моцнае.

— Угаварылі. Бутэльку віна.

— Зараз. Я толькі на хвіліну на склад.

Жанчына зайшла ў бакоўку і прычыніла за сабой дзверы, але ён не звярнуў на тое ўвагі. Неўзабаве прадаўшчыца выйшла. У руцэ ў яе была бутэлька віна. Яна палічыла грошы, збілася, пачала нанава, рукі ў яе нервова соўгаліся, і тут ён нібы ачуняў, заспяшаўся і сказаў ёй, што рэшту можна пакінуць сабе і таропка выйшаў з крамы.

Мужчына ў думках аблаяў сябе за страту пільнасці, хаця, можа, яму і падалося, і шпарка пакрочыў па вуліцы назад, да лесу. Пласцікавы пакет у руцэ быў поўны. Ён хацеў збочыць у які завулак, а не ісці па гэтай бясконцай вуліцы — да лесу яшчэ было парадкам, але прымусіў сябе рухацца нармальна і не пераходзіць на бег. Да рэдкіх соснаў, што раслі на ўскрайку, было ўжо метраў трыста, калі за спінай ён пачуў гук матора, а потым віск тармазных калодак, азірнуўся і — пабег, бо з міліцэйскага "уазіка" ўжо выскоквалі міліцыянты ў камуфляжнай форме. Адзін з іх закрычаў: "Стой!".

Мужчына кінуў ужо непатрэбны пакет і паскорыў бег. Ззаду ён пачуў стрэл, потым другі, а потым загрукаў "калашнікаў", у правы бок ля грудзей яму ўдарыла, стала раптам горача, і ён упаў. Мужчына праляжаў так некалькі секунд, але ўскочыў на ногі, і кінуўся да бліжэйшых дрэў, і лес схаваў яго. Ён адразу ўзяў убок, там былі кусты, раслі трава і мох, потым зноў памяняў напрамак, ззаду спачатку чуліся галасы і трэск сухіх галінак пад нагамі тых, хто яго прыследаваў, а потым яны згубілі яго, не чулі, а сабакі ў іх не было.

...Сабака павінен вывесці іх да яго. Ну, няўжо ў іх няма сабакі? Чакаць не мае сэнсу, бо цяпер для яго ўжо нічога не мае сэнсу. Толькі адно, апошняе. Дык няхай яны прыйдуць хутчэй — тыя с...я міліцыянты, ён жа кінуў сумку і пакет, няўжо так цяжка ўзяць яго след і прыйсці сюды, на гэтую палянку і забіць яго? Прыйдзіце і забіце — ён і адышоў у лес усяго якіх кіламетраў пяць — восем, не больш. Хіба так цяжка знайсці яго? Забіце, бо ён ляжыць ужо другія суткі, і мухі адкладаюць яму на твар яйкі лічынак.

Мужчына скасіў вачыма і ўбачыў, як ізумрудна-зялёныя насякомыя рухаюцца па яго шчоках, руках і грудзях. Мухі лезлі яму ў вочы, нахабна абляпілі твар, і ён нават не мог сагнаць іх. Навошта вы так мучыце мяне, мухі?

Мужчына застагнаў і паспрабаваў паварушыць пальцамі рук. Боль адразу працяў яго. Левая рука ўжо не слухалася, затое пальцы правай звыкла намацалі рукаятку рэвальвера. Хутчэй бы яны прыйшлі. Ён націсне на курок, яны пачнуць страляць у адказ і заб'юць яго. Цікава, кім яны яго лічаць: пэўна, небяспечным злачынцам, маньякам, які проста так забівае людзей? А кім яго лічыць тая шлюха-наркаманка? А яго былая нявеста, якая, пэўна, вырашыла, што ён з'ехаў назаўсёды і падмануў яе? А яго бацькі, якім ён не паказваўся на вочы ўжо два гады? А тая прадаўшчыца, якая пазваніла з падсобкі ў міліцыю ці ў сельсавет?

Пэўна, яе і многіх іншых ужо папярэдзілі, што ён можа зайсці ў краму ці неяк інакш звярнуцца да людзей. А яны — людзі? Скажы мне, лес, яны ўсе — людзі?

Сонца сляпіла яму вочы, але цела было халоднае, ён адчуваў гэты холад. То зямля цягнула яго да сябе. Што ж, ён стане зямлёй і тое здарыцца, пэўна, ужо хутка. Але я не хачу, падумаў ён, ляжаць так яшчэ ноч і яшчэ дзень — мухі ператвораць чаканне ў суцэльнае пекла. А ноччу вы спіце, мухі?

Мужчына намацаў рукаятку рэвальвера і марудна, амаль пяшчотна сціснуў на ёй пальцы. Указальны лёг на курок. Ён прыўзняў рулю і двойчы націснуў. Стрэлы амаль аглушылі яго, цела ўздрыгнула і ён адразу страціў прытомнасць, але хутка ачуняў. Больш страляць ён не будзе, бо ў барабане засталіся толькі два патроны.Чаму ж яны не ідуць, чаму ніхто не ідзе, каб скончыць усё гэта?

У грудзях у яго зноў запалала вогнішча. Чаму не ідзе дождж? Ён бы хоць і не напаіў яго, але напэўна прагнаў бы мух. А ноччу — яны паляцяць у свае сховішчы, ці застануцца поўзаць па ім і адкладваць яйкі?

Сонца пастулова скочвалася да небакраю, і цень упаў яму на твар. Паранейшаму навокал было пуста, і лес ціха шумеў пра сваё. Пра што вы размаўляеце, дрэвы? Кажуць, што ўсе расліны разумныя і трымаюць сувязь між сабой, і што яны прадстаўнікі высакаразвітай фітацывілізацыі. Кім вы лічыце мяне, расліны?

Урэшце, усе мы становімся раслінамі, хаця не — гноем для іх, гэта больш дакладна. Вы прымеце мяне як гной, дрэвы?

Мужчына пачаў павольна падцягваць рэвальвер: спачатку да грудзей, потым да галавы. Урэшце руля ўперлася яму ў скроню. І тады ён удыхнуў як мага больш паветра і націснуў на курок.

...Праз суткі на целе ўжо кішэлі чэрві, а яшчэ праз нейкі час на пах прыйшла пацучыха. Яна была брухатая і зрабіла гняздо проста ў трупе, разлічыўшы, што ежы ёй і патомству хопіць надоўга.

ПАГІНАЦЫЯ

# Пчала без вулля

## ДА 85-ГОДДЗЯ ПЯТРА БІТЭЛЯ

**Ёсць творы, што сталі сінонімамі імя аўтара. Адзін з такіх — паэма "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча... Знакаміты твор, перакладзены на нашу мову, у сваю чаргу знітаваўся з імем перакладчыка, які праробленую працу лічуў сваім найгалоўным творчым здабыткам. Толькі пакутны пераклад той каторае дзесяцігоддзе не можа выйсці ў свет.**

**Імя перакладчыка — Пятро Бітэль. Яму ў гэтыя дні споўнілася б 85. Больш шырокаму чытацкаму колу П. Бітэль вядомы як аўтар паэм "Замкі і людзі", "Дзве вайны"...**

**"Перакладамі я ніколі не займаўся і ніколі над гэтым жанрам не задумваўся" — прызнаўся майстра на сіхле 7-га дзесятка веку. Магчыма, ён бы і не заняўся перакладам, калі б не сталіншчына, якая не супакойвалася нават у пачатку 50-х і закінула найстаўніка нямецкай мовы ў Сібір. Там, у лагерных умовах напрадвесні 1953-га хтосьці атрымаў у пасылцы том паэзіі вялікага генія нашай зямлі. Ды лічаныя беларусы разумелі польскую мову, асабліва з маладых; у лагеры трапляллі нават старшакласнікі. І вось для аднаго такога юнака, Лявона Мазуры з Дзятлава, пачаў пераствараць паэму П. Бітэль. Першыя 26 радкоў, пераніцаваныя па памяці за працаю на будоўлі (новабудоўлі тыя потым залічалі ў актыў маладым камсамольцам-добраахвотнікам) і пакрыёма занатаваныя на папяровым аркушы з-пад цэментавага меха, выклікалі вялікі поспех у сяброў па нядолі. Увечары першыя слухачы — беларусы, летувісы, ды "тутэйшыя" палякі — прасілі ў адзін голас: перакладай далей... Ніхто не дзяліў Міцкевіча на "свайго" ці "чужога".**

**Так і паўстаў той пераклад у 1953—1955 гг. паміж будоўлямі Кемераўскай вобласці і меднымі руднікамі Джэсказгана. І мала каму цяпер вядома, што замест асадкі скарыстоўваўся самаробны "аловак" з алавянага дроту, выцягнуты з ізаляцыйнага кабелю. Што замест атласнага чорнага атраманту пісалася зялёнкай, вынесенай з санчасці санітарам (летувісам; ён усё намаўляў, што "ты Бітэль — з нашых", паколькі bitele па-літоўску азначае пчаліная матка, пчолка); што замест аркушаў паперы ішлі тыя ж цэментныя мяхі. І першы ганарар яму вызначылі канваіры: калі ўжо "Кніга другая" (менавіта з яе пачаў пераклад П. Бітэль) была скончаная і пайшлі сотні радкоў 1-й кнігі — яго злавілі за гэтым малазразумелым і небяспечным заняткам. Кара — трое сутак карцэру ("писал после отбоя какие-то дурацкие стишки").**



**Усё засталося ў мінулым. У кастрычніку 1991 не стала самога перакладчыка. Застаецца толькі спадзявацца, што рупнасцю супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АНБ (ці НАН) у асобе У. Мархеля пераклад урэшце пабачыць свет у акадэмічным выдавецтве, дзе на наступны год, да 200-гадовага юбілею А. Міцкевіча, запланаваны гэты "лагерны помнік".**

**Праўда, мушу нагадаць: калі адшукаць тэматычны план выдавецтва "Мастацкая літаратура" за 1985 г. і разгарнуць яго на NN 169—170 — дык пабачым, што там ужо стаяў (намаганнямі тагачаснага дырэктара М. Дубянецкага) 2-томнік паэзіі А. Міцкевіча, пераклады для якога "былі выкананы спецыяльна П. Бітэлем".**

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

Адам МІЦКЕВІЧ

# Пан Тадэвуш

## УРЫВАК З XII КНІГІ

*...Гудзе "Маёвы паланез!"[1] Напеў той любы*
*Прыносіць радасць, радасцю слых поіць, —*
*Гуляць дзяўчаты хочуць,*
*хлопцы аж не ўстояць.*
*Але старых няслі ў мінулае ўспаміны,*
*У час такі шчаслівы для ўсяе краіны,*
*Калі паслы з сенатам у агульнай залі,*
*З народам згоджанага, караля віталі,*
*У танцах пяючы: "Віват кароль каханы!*
*Віват саслоўі ўсе! Віват дэлегаваным!"*

*Мастак прыспешвае зноў такты з сілай дужай,*
*Ды вось пусціў акорд фальшывы, як сык вужа,*
*Як быццам па жалезе шкло заскрыгатала,*
*Ажно дрыготка праняла ўсіх і скавала.*
*І ўсе з трывогай пазіралі неспакойна:*
*Музыка мыліцца, ці інструмент нястройны?*
*Не змыліцца такі! Сумысля ён кранае*
*Струну здрадлівую і песню абцінае,*
*Штораз мацней дае акорд расхваляваны,*
*Супроць акордаў згодных сканфедараваны.*
*Аж Ключнік, зразумеўшы ў чым тут таямніца,*
*Ускрыкнуў: "Знаю, знаю! гэта —*
*Т а р г а в і ц а!"[2]*
*І раптам, пырснуўшы, струна аж засвістала.*
*Музыка рушыць прымы, такты рве нядбала,*
*Кідае прымы, звоніць гулкімі басамі.*
*Гудзіць інструмент тысячнымі галасамі:*
*Такт маршу, штурм, атака,*
*крык чуваць і стрэлы,*
*Плач матак і дзяцей.*
*Вось так мастак умелы*
*Аддаў страхоцце штурму, аж уздрыгваў смелы,*
*Аж плакалі сялянкі, ўспомніўшы ў тым жалі,*
*Разню у Празе, пра якую з песняў зналі.*
*Дык рады, што мастак у струны з цэлай сілы*
*Ударыў, збіўшы галасы, бы ў глыб магілы.*

*Ледзь слухачы маглі апомніцца з здзіўлення,*
*Зноў музыка другая — ціхае бранчэнне*
*Спярша ў струн некалькі ,*
*што енк іх рвецца, гіне,*
*Як зык, ледзь чутны мух,*
*прарваўшых павуцінне.*
*Ды струн вось прыбывае, адзіночкі тоны*
*Злучаюцца ў акордаў гучных легіёны*
*І ўжо ступаюць тактам смелым,*
*роўным, згодным*
*І льюцца песняю з напевам сумным, родным:*
*Пра беднага салдата, што брыдзе лясамі,*
*Нядоляй змораны і голадам, часамі,*
*І ўрэшце падае з каня, бо страціў сілу,*
*А конік ножкай рые для яго магілу.*
*Старая песня! Як яе паслухаць міла!*
*Пазналі ўсе яе, дык войска абступіла*
*Цясней музыку. Слухалі і ўспаміналі*
*Той страшны час, калі радзіму пахавалі,*
*І з гэтай песняй падаліся на ўскрай свету.*
*Прыпомнілі і ўсю сваю вандроўку гэту*
*Праз землі, моры, праз пустыні, па марозе,*
*Дзе між чужымі на папасе ці ў дарозе*
*Уцешылі не раз іх роднай песні словы.*
*І сумна пачалі схіляць свае галовы.*
*Ды ўраз іх узнялі, бо такт ужо жвавее,*
*І з тонаў зменевых другое нешта вее,*
*Мастак ізноў з гары глядзіць на струны горда*
*І дзве рукі зараз на іх ускінуў цвёрда.*
*Удар быў гэткі ўмелы, так рвануў басамі,*
*Што струны загулі труб звонкіх галасамі*
*І з труб тых голас песні пад нябёсы хлынуў.*
*Марш трыумфальны:*
*Польскі край яшчэ не згінуў!..*
*Марш, марш Дамброўскі ў Польшчу! —*
*Усе рукапляскалі*
*І дружна: "Марш Дамброўскі" хорам аклікалі!*

*Самога мастака здзівілі песні гукі,*
*Калочкі выпусціў, падняў угору рукі,*
*А шапка лісяя звалілася на плечы.*
*Развейваў ветрык бараду старэчы,*
*Пунсовым шчокі заірдзеліся адценнем,*
*А зрок яго юнацкім палымнеў натхненнем.*
*Як зноў Дамброўскага перад сабою ўбачыў,*
*Закрыў рукамі вочы і занёсся плачам.*
*"Пан Генерал, — сказаў, —*
*даўно Літва ўжо наша*
*Цябе чакала, як яўрэі Месіяша,*
*Цябе і спевакі прарочылі між людам*
*І неба твой прыход нам аб'явіла цудам,*
*Жыві, ваюй, ты наш!.." І плакаў небарака,*
*Бо польскі край кахаў не меней за паляка!*
*Руку падаў яму Дамброўскі ўсхвалявана,*
*Ён шапку зняў, пацалаваў руку з пашанай.*

*І паланез пачаць пара. Дык Падкаморы,*
*Пусціўшы кунтуша вылёты па прасторы,*
*З паклонам ветлівым руку к вусам узносіць,*
*Збліжаецца да Зосі і ў танец просіць.*
*За Падкаморым пары сталі шчыльным радам.*
*Пачаўся танец — ён камандуе парадам.*
*Над зеленню чырвоныя ірдзеюць боты,*
*Б'е ззянне з шаблі, свецяць пояса звароты,*
*А ён ідзе памалу, быццам так, нарокам,*
*Але за кожным рухам і за кожным крокам*
*Танцора пачуццё і думка праглядае. —*
*Вось стаў, як быццам даму запытаць жадае,*
*Схіляе к вушку галаву, глядзіць у вочы.*
*Саромеецца дама, выслухаць не хоча.*
*Ён зняў канфедаратку, просіць вінавата.*
*Зірнула дама, ды маўчыць яшчэ заўзята.*
*Ён памалей ступае, заглядае ў зрэнкі*
*І раптам засмяяўся. Рады ля паненкі*
*Хутчэй ідзе, глядзіць навокал з недавер'ем,*
*Сваю канфедаратку з белай чаплі пер'ем*
*Насуне, то ізноў адслоніць волас русы,*
*Аж вось звярнуў яе на вуха, круціць вусы.*
*Ідзе, а ўсе зайздросцяць, даганяюць жвава,*
*А ён хацеў бы з дамай вымкнуцца з забавы,*
*Часамі стане, ветліва руку узносіць*
*І, каб яго міналі, ўсіх пакорна просіць.*
*А часам ухітраецца і ўбок захіліць,*
*Мяняе сцежку, думае сяброў мо змыліць,*
*Але бягуць за ім дакучліва і хутка,*
*І нельга вырвацца з таго жывога скрутка,*
*Дык, злы, руку кладзе на шаблі рукаятку,*
*Як бы казаў: "Зайздросных навучу парадку!"*
*І з выклікам адважным на чале і ў воку*
*Ідзе ў натоўп, а той яго не смее кроку*
*Спыніць і расступаецца, змяніўшы шыкі,*
*Аднак усе бягуць за ім. —*
*Гудуць ускрыкі:*
*"Ах мо апошні ён! глядзіце на палетак*
*Апошні мо, што паланез танцуе гэтак!"*
*За парай беглі пары гучна і вясёла,*
*Раскручвалася, зноў закручвалася кола,*
*Як вуж вялізарны, што ўецца між прастораў.*
*Пераліваюцца луской фарбы ўбораў*
*Салдацкіх, панскіх, дамскіх і гараць бясконца*
*У пазалоце ўжо заходзячага сонца,*
*Адбіўшыся на цёмнай зелені дварышча.*
*Кіпіць гульня, шум, крык,*
*аркестр гудзе і свішча.*

*Адзін капрал Дабжынскі Сак, ані музыкаў*
*Не чуе, не гуляе, не ўзнімае крыкаў,*
*Стаіць з рукамі ўзад, напоўнены згрызоты,*
*Успамінаючы даўнейшыя залёты,*
*Як абрываў для Зосі кветкі ля крынічкі,*
*Кашолачкі ёй плёў, вырэзваў завушнічкі.*
*Няўдзячная! Дарункі дарма змарнаваны!*
*Хаця ўцякала, хоць быў бацькам пакараны*
*Няраз, ішоў і на паркан стары ўзбіраўся,*
*Каб праз акно убачыць. Праз каноплі краўся,*
*Каб толькі паглядзець як палівала градкі,*
*Гуркі збірала ці карміла кураняткі.*
*Няўдзячная! Тут галаву ўцягнуў і свіснуў*
*Мазурку, а пасля кашкет глыбей націснуў,*
*Пайшоў у бок гарматаў, дзе стаяла варта*
*І, каб прагнаць нуду, пачаў граць у дружбарта[3]*
*З сябрамі, чаркай асалоджваючы жаласць.*
*Такая у яго была да Зосі сталасць.*

*А Зося ўсё танцуе. Хоць у першай пары,*
*Аднак здалёк ледзь бачная на тым абшары*
*Заросшага дзядзінца, дзе быў натоўп гэткі.*
*Апранутая ў зелень, выстраена ў кветкі,*
*Між траў і кветак кружыць*
*ледзь прыкметным лётам,*
*Кіруе танцам, як той ангел зор зваротам:*
*Згадаеш дзе яна, бо Зосю сочыць кожан,*
*Бо кожны Зосяю сягоння заварожан.*
*І дарма Падкаморы цягне танца хвілі,*
*Зайздроснікі яе ў яго ужо адбілі.*
*Нядоўга і Дамброўскі шчасцем карыстаўся,*
*Другому адступіў, а там і трэці гнаўся*
*І той, адбіты, пазірае ўслед з тугою.*
*Аж Зося, змораная, ўбачыла чаргою*
*Тадэвуша і, баючыся вандравання,*
*З ім застаецца, пакідае круг гуляння,*
*Ідзе к сталу наліць гасцям віна ў кяліхі.*

*А сонца гасла, вечар цёплы быў і ціхі,*
*Круг неба быў там-сям у хмарачкі спавіты,*
*На захадзе гарэлі ружамі блакіты.*
*Відаць к пагодзе — хмаркі лёгкія ўрачыста*
*Плылі, як па траве авечак гурт пушысты,*
*А тыя дробныя, як качак стадка.*
*На захадзе хмурынка з беражком нягладкім*
*Фіранкаю празрыстай выдае фігурнай,*
*З залочаным рубцом, з сярэдзінай пурпурнай.*
*Яна заходу блескам тлела, прамянела,*
*Але памалу зжоўкла, зблякла, пашарэла,*
*Спусціла сонца твар, фіранку зацягнула*
*І, уздыхнуўшы цёплым ветрыкам, заснула.*

*А шляхта п'е нястрымна, тосты бурна ўзносіць*
*За камандзіраў, за Тадэвуша, за Зосю,*
*За ўсе тры пары, злучаныя сёння ўранні,*
*За ўсіх гасцей, прысутных на гулянні,*
*За ўсіх сяброў, каго хто толькі спамятае,*
*За тых памёршых, памяць пра якіх святая.*

*І я там быў з гасцямі, піў і мёд, і віны,*
*А кнігі гэтыя ўсе — з дзён тых успаміны.*

**Пераклаў з польскай мовы**
**Пятро БІТЭЛЬ**

[1]"Маёвы паланез або "Паланез 3-га мая" — песня ў гонар аб'яўлення Канстытуцыі 3-га мая 1791 г.
[2]Таргавіца — Змова магнатаў супраць Канстытуцыі 3-га мая ў горадзе Таргавіца (на Украіне).
[3]Дружбарт — старая гульня ў карты.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 19.6.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3532/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12